№ 52 (4099)

www.nv-online.info

8 ліпеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Шаноўныя чытачы!**

*У другі раз звяртаемся да Вас з адной і той жа просьбай. Каб нас, прыхільнікаў дэмакратыі, было болей, давайце далучым да кола падпісчыкаў «Народнай Волі» новых сяброў.*
*Для таго, каб атрымліваць газету з 1 жніўня, ім трэба аформіць падпіску да 27 ліпеня.*

СУСВЕТНАЯ ПАДЗЕЯ

## Сёння ў Варшаве пачынаецца саміт NATO




Сусветныя СМІ называюць яго «неардынарным» і «гістарычным». Што не дзіва – у саміце возьмуць удзел 18 прэзідэнтаў, 21 кіраўнік урада, 41 міністр замежных спраў і 39 міністраў абароны. Асвятляць падзеі будуць дзве тысячы журналістаў.

Апошні раз у аналагічным складзе вышэйшыя службовыя асобы і лідары краін NATO збіраліся ў верасні 2014 года ва Уэльсе. Тады літаральна ўсе дыскусіі круціліся вакол адной падзеі – анексіі Крыма. І гэта быў першы пасля завяршэння «халоднай вайны» саміт NATO, на які не запрасілі расійскую дэлегацыю.

У гэты раз, адзначаюць аналітыкі, тэма Расіі таксама сярод галоўных. Аднак тон абмеркавання абяцае быць іншым. Як лічаць эксперты, натаўскім генералам акрамя Расіі ёсць што абмяркоўваць: трэба сканцэнтраваць увагу на тэрарыстычных актах, якія перажылі Еўропа і ЗША, а таксама на працэсах, якія адбываюцца ўнутры ЕС. Праўда, плануецца, што дэлегацыя Вялікабрытаніі запэўніць прысутных, што вынік рэферэндуму аб членстве ў Еўрасаюзе ніякім чынам не паўплывае на яе статус і выкананне абавязацельстваў у NATO.

Чакаецца, што падчас саміту будзе абвешчана выніковае рашэнне аб размяшчэнні ў краінах Балтыі і Польшчы чатырох шматнацыянальных батальёнаў NATO (па 600–1000 чалавек у кожнай дзяржаве).

Безумоўна, расійская тэма на саміце 8 і 9 ліпеня будзе гучаць. Напрыклад, праца адной з секцый саміту будзе прысвечана агрэсіўнай расійскай прапагандзе, якая ўводзіць у зман мільёны людзей. На другім пасяджэнні абмяркуюць ядзерныя пагрозы, што ідуць з боку Расіі. У той жа час аналітыкі адзначаюць, што члены NATO не імкнуцца да канфрантацыі з Расіяй. Многія звяртаюць увагу на тое, што на афіцыйным сайце альянсу перакладзены на рускую мову практычна ўсе прэс-рэлізы, дзе згадваецца Расія і нават апублікаваны спецыяльныя матэрыялы, якія аспрэчваюць папулярныя ў Расіі міфы аб Паўночнаатлантычным альянсе. У артыкуле можна прачытаць, чаму NATO «не спрабуе ізаляваць Расію» і ў чым сапраўдная мэта супрацьракетнай абароны. Дарэчы, адразу пасля саміту запланавана і пасяджэнне Савета Расія–NATO.

Варта адзначыць тое, якія ў гэтыя дні ў Варшаве прыняты беспрэцэдэнтныя меры бяспекі. Служба Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы атрымала на іх арганізацыю дадаткова 48 млн злотых (амаль 12 млн долараў). За парадкам у горадзе будуць сачыць каля 6 тысяч супрацоўнікаў паліцыі, а таксама ваенныя. Яны будуць ахоўваць не толькі Нацыянальны стадыён Варшавы, дзе пройдзе саміт, але і гатэлі, у якіх размесцяцца VIP-персоны, а таксама рэстараны і турыстычныя маршруты.

Дарэчы, спецыяльна да саміту на поле Нацыянальнага стадыёна была ўзведзена пабудова, дзе акрамя канферэнц-залаў прадугледжаны асобныя пакоі для дэлегацый. Офіс прэзідэнта ЗША Барака Абамы, напрыклад, уяўляе копію Авальнага кабінета ў Белым доме. Вакол стадыёна ўзвялі плот з бетону і сталёвай сеткі 2,5 метра вышынёй і працягласцю тры кіламетры.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ДЫПКУР'ЕР

### Амерыканская дыпмісія застанецца без кіраўніка больш як на месяц

Сёння, 8 ліпеня, былы Часовы Паверaны ў Справах ЗША ў Беларусі Скот Роланд пакідае Мінск – яго дыпламатычныя паўнамоцтвы ў Беларусі завершаны. Новы кіраўнік амерыканскай амбасады ў Беларусі Роберт (Боб) Райлі прыбудзе ў беларускую сталіцу напрыканцы жніўня. Пра гэта ў эксклюзіўным інтэрв'ю БелаПАН паведаміў Скот Роланд. Паводле яго слоў, да прызначэння ў Беларусь Боб Райлі займаў пасаду палітычнага дарадцы ў пасольстве ЗША ў Венгрыі.

ЗА РУЛЕМ

### Бензин не подорожает

– Повышения цен на топливо в Беларуси не будет, – заявил вчера вице-премьер Беларуси **Владимир Семашко**. – Если и будут расти, то только оптовые цены. Но это ни в коем случае не коснется розницы. Здесь опасения излишни, никто не планирует повышение розничных цен на топливо.

З НАГОДЫ

### Па новых падручніках…

У верасні ў беларускіх школах з'явяцца першыя падручнікі новага пакалення, яны падрыхтаваны. Пра гэта паведаміла намеснік міністра адукацыі **Раіса Сідарэнка**. Паводле яе слоў, распрацаваны вучэбныя праграмы па ўсіх прадметах. Усе гэтыя матэрыялы абмяркоўваліся ў школах з настаўнікамі.

«Мы атрымалі ад настаўнікаў рэальную дапамогу і падтрымку, шмат канкрэтных канструктыўных прапаноў паступала на наш партал», – цытуе словы Раісы Сідарэнка БЕЛТА.

ЗА КУБАЧКАМ КАВЫ З МАРЫНАЙ КОКТЫШ



## Не вельмі святы, але вельмі сімпатычны Пракопавіч



*Адзін са сваіх сумесных фотаздымкаў з Уладзімірам Някляевым паэт Андрэй Хадановіч менавіта так і падпісаў: "Не вельмі святы, але вельмі сімпатычны Пракопавіч". Ён сапраўды такі і ёсць. Шчыры. Глыбокі. І ў той жа час вельмі лёгкі на пад'ём і розныя авантуры. З сённяшняга дня адзін з лепшых беларускіх паэтаў Уладзімір Някляеў пачынае святкаваць свой 70-гадовы юбілей.*

### Ціснуць туфлі, не гады!

**– Уладзімір Пракопавіч, у сваіх кнігах і аўтабіяграфіях вы пішаце, што нарадзіліся 9 ліпеня, але ва ўсіх афіцыйных дакументах і даведніках пазначана, што 11-га. Дык насамрэч калі? І ці праўда, што два дні заўсёды святкуеце?**

– Са слоў маці нарадзіўся 9-га. Бацька сведчыў, што 11-га. Ну, я меркаваў: два дні гуляў, а на трэці ўспомніў, з якой нагоды: сын, аказваецца, нарадзіўся.

Але ёсць яшчэ адзін сведка майго з'яўлення на свет – Павел Васільевіч Іваненка. Цяпер яго, сівабародага, можна бачыць амаль на ўсіх вулічных акцыях апазіцыі. А ў 1946 годзе па заканчэнні медыцынскай вучэльні яго накіравалі акушэрам у Смаргонскую раённую лякарню. Дык вось ён кажа, што прывезлі маці ў радзільню 9-га, а нарадзіла яна, два дні прамучыўшыся, 11-га. "Надта вялікая, – кажа, – была ў цябе галава".

Справа яшчэ больш заблыталася – і я вырашыў болей не разбірацца ў ёй, не крыўдзіць ні маці, ні бацьку, ні акушэра. А тым больш Бога, па волі якога... Таму святкую абодва дні, не прапускаючы той, які паміж імі.

Зрэшты, я не надаю гэтаму дню, вельмі ўмоўна, каляндарна пазначанаму ў часе, асаблівага значэння. Любы чалавек нараджаецца ўчора і памірае заўтра. Істотна тое, што ён здзяйсняе, што паспявае здзейсніць між гэтымі днямі. У бліскавічнае імгненне быцця.

**– Як на мой погляд, то вы файна выглядаеце. Падцягнуты, без зморшчын, заўсёды ў гуморы. Мне падаецца, апошнія гадоў 20 знешне вы ўвогуле не мяняецеся. А што самі думаеце пра свой узрост? Цісныць гады?**

– Цісныць новыя туфлі. Таму я стараюся іх не мяняць, доўга нашу адны і тыя – вось і выгляд не мяняецца.

А калі ўсур'ёз: не сціскайце сэрца сваё нянавісцю да іншых, інакшых, не такіх, як вы, не мучайце душу сваю зайздрасцю да тых, хто штодня можа мяняць туфлі, – і не будзе ў вас зморшчын.

**– Не так даўно некалькі разоў бачыла, як вы з жонкай выходзілі з 2-га шпіталю. Потым прайшла чутка, што Някляеву зрабілі складаную аперацыю…**

– Ну. Зморшчыны в*ы*разалі.

А калі сур'ёзна, то пра здароўе і надвор'е – гэта не да мяне. Лепш я вам пра адзін выпадак, што ў шпіталі стаўся, распавяду. Характэрны такі для нашага часу.

Мяне ў палату для ветэранаў паклалі. Выпадкова. Не было сапраўдных ветэранаў – паклалі мяне. І вось 6 мая (бо з 7-га і аж па 10-е – выхадныя дні) – з'яўляюцца дзеці. З настаўніцай і кветкамі. Віншаваць з днём 9 Мая. "Спасибо за победу, за наше счастливое детство..." А настаўніца пазнае мяне – і паціху бялее: "Мы, наверное, не туда... Вы же против победы..."

"Не, – кажу, – не хвалюйцеся, я шмат супраць чаго, але не супраць перамогі. Я – за..."

"Спасибо, дзякуй", – сказала настаўніца і павяла дзяцей да іншых ветэранаў. Мабыць, гэткіх самых, як я.

**– Вы хоць і не ветэран, але ўсё ж пражылі даволі доўгае жыццё. А якой уяўляеце сваю старасць?**

– Адзін з маіх вершаў сканчаецца так:

*Прайсці праз лёс,*
*нібы праз жыта,*
*Праз поле, поўнае трысця,*
*І зразумець, што ўсё пражыта,*
*Спазнана ўсё, апроч жыцця.*

Доўгага жыцця не бывае. Кожны з нас, як я ўжо казаў напачатку, нараджаецца ўчора і памірае заўтра. І гэта, бадай, адзінае, што я дакладна магу сказаць пра жыццё.

Можна вызначыць яго жанрава. Як у літаратуры: раман, аповесць, апавяданне. У залежнасці ад колькасці эпізодаў, што нанізваюцца на нітку лёсу, як пацеркі. Жывеш, перабіраеш...

Дарэчы, калі пішаш, ніколі не ведаеш, у якім месцы нітка парвецца. Калі жывеш – таксама.

Літаратура – гэта запісанае жыццё.

Што ж да старасці... Ёсць у мяне кніга, якая называецца "Знакі прыпынку". Апошні запіс там такі: *"Я б хацеў састарыцца і памерці разам з маім жыццём. Не раней і не пазней".*

**– Некаторыя вашы творы лічацца ўзорамі беларускай літаратуры. Філосаф Валянцін Акудовіч назваў вашу паэму "Ложак для пчалы" найлепшай ва ўсёй беларускай паэзіі. Гэтага дастаткова, каб, як вы напісалі ў адным з вершаў, *"апраўдаць сваё жыццё"*?**

– Сам цуд жыцця значна большы за ўсе цуды, якія здольны здзейсніць чалавек. Верагоднасць нашага з'яўлення ў свеце гэткая мізэрная, што нікога з нас не мусіла быць. Вас, мяне... Нікога! І тым не менш мы ёсць. Выйгралі ў такой латарэі, у якой немагчыма выйграць. А радуемся, калі выйграем у спортлато. Вось гэта *неадчуванне* сапраўднага цуду, свята, неверагоднасці жыцця мяне найбольш у людзях здзіўляе. І, мяркую, менавіта праз гэта Бог нам кажа, што панылась – грэх.

Я ўдзячны Богу і людзям за ўсё, што ў жыцці маім сталася. Можна было б, вядома, нешта ў ім з'іначыць, але гэта – *калі б можна было*. Ды нельга. Таму я не рэфлексую праз тое, чаго не сталася, а жыву тым, што яшчэ можа быць.

### Выйграць лёс

**– Можаце скласці нешта кшталту рэйтынгу ўчынкаў, якімі вы, дасягнуўшы сённяшняга юбілею, асабліва незадаволены і якія, магчыма, хацелі б выправіць?**

– Магу, хоць у палітыцы так не робіцца, кепскага пра сябе ніхто не кажа, у памылках не прызнаецца. Вы чулі, каб нехта прызнаваўся?

**– Рэдка. Але ж вы не тыповы палітык.**

– ...Быў 1981 год, набліжаўся XXVI з'езд КПСС. Я не быў у партыі, але мяне выклікалі ў Маскву: «Ты выбраны з усіх паэтаў Савецкага Саюза, каб напісаць прывітанне з'езду ад моладзі».

Напісаў і паехаў у Мінск. Праз месяц зноў выклікаюць. «Тваe вершы зацверджаны ў ЦК КПСС. Ты выбраны з усіх, каб прачытаць з трыбуны з'езда…»

Пайшлі бясконцыя рэпетыцыі… На радыё, тэлебачанні, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў… Я ў каторы раз чытаў: *«Плыви, страна, эпохи ледокол!»* – і ў каторы раз думаў…

Кожнаму чалавеку жыццё дае шанец на выйгрыш. Некаму – выйграць грошы, некаму – лёс.

Мой шанец выглядаў як лёс. І, у соты раз падумаўшы, я вырашыў яго не прапусціць: сказаць не пра тую краіну, якая плыве, а пра тую, якая патанае…

Ды адно – падумаць, іншае – зрабіць. Не знайшлося ў апошні момант сілы, мужнасці. І не толькі таму, што на крамлёўскую сцэну, якую ў тры шэрагі аточвала ахова, выпусцілі не ў прызначаны час, а гадзіны на паўтары пазней, нібы нешта западозрылі. І не таму, што папярэдзілі, каб не надта хваляваўся, чытаючы: усё адно пойдзе фанаграма, запісаная ў студыі на Шабалаўцы. Якая розніца: пачулі б мяне ці не?.. Проста не здолеў, не змог. Не хапіла мяне на гэта. Выйшаў: *«Плыви, страна, эпохи ледокол!..»*

Гэта было ў тым, мінулым, жыцці, што засталося ў краіне, якой не стала. Савецкі Саюз, той "ледакол эпохі", пра які чытаў я вершы на з'ездзе КПСС, спачатку ўмёрз у лёд, а пасля патануў.

Гледзячы, як зацягваецца новым лёдам палонка, я задаваўся пытаннем: калі б я здолеў зрабіць на тым з'ездзе тое, што думаў зрабіць, дык ці даўжэй бы плыў ледакол ці патануў бы хутчэй?.. Ці гэта нічога не змяніла б, ні на што не паўплывала б і ўсё было б, як ёсць?

Вада ў палонцы ўздрыгвала і не давала адказу.

Праз гады ў мяне з'явіўся яшчэ адзін шанец на выйгрыш, які выглядаў як лёс. І вось тут я зрабіў памылку, прыняўшы здраду за чалавечую слабасць. І здрада прарасла, пусціла карані – і ўрэшце, як дзядоўнік, заглушыла ўсё, што я спрабаваў пасеяць з кампаніяй "Гавары праўду!". Калі б не гэта, вынік Плошчы 2010 года мог быць іншым. Цяпер цяжка сказаць, якім, але іншым, і я адчуваю гэта як віну, а не толькі ўспрымаю як памылку. І ўсё яно дасюль гукаецца ўва мне. Пакутліва, балюча.

**– Вы паэт ад Бога, а народным так і не сталі. Былі старшынёй Саюза пісьменнікаў, прэзідэнтам ПЭН-цэнтра, галоўным рэдактарам часопіса "Крыніца", лідарам кампаніі "Гавары праўду!" – адусюль сышлі, недзе нават моцна ляпнулі дзвярыма. Былі кандыдатам у прэзідэнты, але крэсла кіраўніка дзяржавы не занялі. Карацей, адны няўдачы, процьма не даведзеных да канца спраў! А вы ўзяліся за новую, ствараеце рух "За дзяржаўнасць і незалежнасць". Такі стыль жыцця?**

– Гэта, па-вашаму, кепска? Лепш было б, калі б я ніадкуль не сыходзіў? Да гэтай пары ў Саюзе пісьменнікаў сядзеў? А дзе б тады цяперашні старшыня Саюза быў? Ці цяперашні прэзідэнт ПЭН-цэнтра?.. А так: я сышоў – яны прыйшлі.

У нас і без мяне хапае седуноў. Сядзяць і сядзяць. Ва ўладзе, у апазіцыі...

Усё, што ў вашым пытанні названа: Саюз пісьменнікаў, ПЭН-цэнтр, рэдакцыя "Крыніцы" (была яшчэ рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва"), кампанія "Гавары праўду!", прэзідэнцкія выбары, цяперашні рух "За дзяржаўнасць і незалежнасць" і г.д. – знешнія выявы біяграфіі. Тое, што пішацца ў анкетах. Да біяграфіі ўнутранай, да таго, што пішацца ў душы (а гэта і ёсць сапраўдная чалавечая біяграфія), яны калі і маюць дачыненне, дык аддаленае. За выключэннем выпадкаў, калі пранікаюць са знешняй біяграфіі ва ўнутраную. Ну, да прыкладу, стварыў я рэдакцыю "Крыніцы" – і спаткаў у ёй Вольгу. Каханне. Лёс. Вось за гэта я ўхапіўся. Учапіўся, бо ёсць за што! А нехта чапляўся б за рэдакцыю, за рэдактарскае крэсла... Кожнаму сваё.

Зрэшты, сыход з "Крыніцы", бадай, адзіны, пра які я не тое што шкадую, а... Як бы гэта дакладней сказаць?.. Смуткую іншым разам па той "Крыніцы". Бо той час быў напоўнены "Крыніцай", якая пакінула ў ім след. Сваімі асобамі, тэкстамі, уплывам. І нават цяпер яна, як бы перастаўшы быць, не страцілася. І не страціўся ніхто з тых, хто ў ёй быў, хто разам са мной яе ствараў. Валянцін Акудовіч, Уладзімір Арлоў, Алесь Асташонак (хоць фізічна яго і не стала), Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Разанаў, мастак Кастусь Вашчанка... Мы разышліся, але засталіся.

Там насамрэч быў стыль. Пазней я паспрабаваў аднавіць яго ў кампаніі "Гавары праўду!". У іншых умовах, іншай дзейнасці. І напачатку гэта ўдавалася. Пакуль не ўмяшаліся "стылісты" з Камітэта дзяржбяспекі – і гаварыць праўду пачалі здраднікі, махляры, сексоты.

У час трэба прыходзіць – і ў час сыходзіць.

Між іншым, амаль усе месцы, з якіх я сыходзіў, былі, так бы мовіць, гнёздамі з яйкамі. На іх бы сядзець і сядзець. Але, калі б я нават заняў месца прэзідэнта Беларусі, я б і з яго своечасова сышоў, пра што наўпрост казаў падчас выбарчай кампаніі. А то вунь як Аляксандр Рыгоравіч рассеўся...

Вось гэта не мой стыль. Я ніколі не хацеў быць нечым кшталту куфра, які стаіць пасярод хаты і ўсім замінае, але якога не выкінуць, бо ён цяжкі. Ці ўвогуле, як зэдаль у пакоі для допытаў, да падлогі прыкручаны.

***(Заканчэнне на 4-й стар.)***

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА



*Позавчера Александр Лукашенко принимал в своей резиденции Временного Поверенного в Делах США в Беларуси Скотта РОЛАНДА. Вот фрагмент их диалога.*



**Александр Лукашенко:**

– Сказать, что у нас все хорошо, я имею в виду отношения между государствами, наверное, будет даже не совсем дипломатически выглядеть искренне, но то, что гораздо лучше, чем было, и то, что мы движемся в нормальном, правильном направлении, наверное, и вы не станете это отрицать. И при доброй воле руководства Соединенных Штатов мы очень многое можем сделать в ближайшем будущем.

Да, у нас есть определенные обязательства перед нашими соседями, у нас есть очень тесное сотрудничество, вы это знаете, с Российской Федерацией, с Китайской Народной Республикой, с Индией. Это наши стратегические союзники, партнеры. Мы с ними заключили соответствующие соглашения, но мы никогда не скрывали тот факт, что без нормализации отношений с Соединенными Штатами, с вашей страной, с вашей родиной, мы не будем иметь полноценную внешнюю политику. Мы не скрываем, что очень хотели бы нормализации отношений с Соединенными Штатами на взаимовыгодных условиях.

**Скотт Роланд:**

– Хотим поблагодарить вас и Министерство иностранных дел, которое сотрудничало с нами очень хорошо по многим вопросам. Мы надеемся, что это дает положительный импульс для полной нормализации отношений в будущем. Вашингтон хотел, чтобы я вам передал: мы готовы и дальше сотрудничать с вами, с государством Беларусь, чтобы было хорошее будущее и, конечно, самое главное, чтобы территориальный суверенитет и независимость Беларуси были на самом высоком и крепком уровне.

**А.Лукашенко:**

– Вы в этом можете не сомневаться. Независимость и суверенитет для меня как президента и, вы, наверное, уже видите, для белорусского народа – это уже святое. Это икона. Мы никогда не согласимся с тем, чтобы быть не суверенным государством, чтобы быть не зависимым или зависимым от кого-то либо, мы с этим никогда не согласимся. И, поверьте, мы сделаем все для того, чтобы таковым быть. Без всяких излишеств, без гвалта, без помпы какой-то мы сделаем это красиво и спокойно. И мы всегда будем независимыми. Господь видит, что белорусский народ заслужил это своей историей. И вы это хорошо знаете тоже.

ДАСЛОЎНА

### Уладзімір МАКЕЙ, міністр замежных спраў Беларусі:

– Што датычыцца перспектыў размяшчэння новых кантынгентаў войск NATO ў краінах Балтыі і Польшчы, зразумела, мы не вітаем размяшчэнне дадатковых воінскіх кантынгентаў на тэрыторыі нашых суседніх краін. Мы можам зразумець логіку нашых партнёраў, чаму яны гэта робяць, хоць не падтрымліваем гэтыя захады. Мы не разглядаем гэта як прамую пагрозу нашай бяспецы. Мы разглядаем гэта як пэўныя выклікі ў ваеннай сферы, на якія мы павінны таксама нейкім чынам рэагаваць.

*Адказваючы на пытанне, ці магчыма размяшчэнне расійскіх авіябаз у Беларусі пры размяшчэнні дадатковых войскаў NATO ў краінах Балтыі, Уладзімір Макей заўважыў:*

– Я не магу сказаць, што будзе заўтра ці паслязаўтра. Вядома ж, мы будзем старанна аналізаваць, як складваецца сітуацыя ў нашым рэгіёне і прымаць адэкватныя меры рэагавання. Але мы не зацікаўлены ў тым, каб нейкія крокі, якія будзе прадпрымаць Беларусь у ваеннай сферы, спрыялі далейшаму нагнятанню ваеннай напружанасці ў нашым рэгіёне і ў цэлым на еўрапейскім кантыненце. Мы не зацікаўлены ў тым, каб ствараліся новыя раздзяляльныя лініі ў Еўропе. Мы краіна невялікая, і развіццё нашай дзяржавы залежыць ад міру і спакою ў рэгіёне.

*(7 ліпеня 2016 г., падчас рабочага візіту ў Латвію.)*

КСТАТИ

## Эвалдас Игнатавичюс заслужил благодарность за вклад в развитие белорусско-литовских отношений



Об этом А.Лукашенко заявил вчера на встрече с Чрезвычайным и Полномочным Послом Литвы в Беларуси Эвалдасом Игнатавичюсом по случаю завершения его дипломатической миссии в стране.

«Является фактом и то, что в очередной раз из Минска уезжает посол, который работал на благо Беларуси и Литвы. Вас я отношу к таким послам, – отметил Александр Лукашенко. – Я понимаю, что вы слуга своей страны. У вас могут быть свои интересы, но тем не менее вы понимаете, что Беларусь – это соседняя страна, не чужая вам».

Президент напомнил, что Беларусь и Литва жили в одном государстве: «Вы это помните, и на нас это накладывает определенный отпечаток, может, даже обязательство». Александр Лукашенко также подчеркнул: «Вы обременены некими обязательствами со стороны своих партнеров в Европейском Союзе, НАТО и т.д. Вы знаете нашу ситуацию. Мы тоже имеем свои обязательства перед нашими партнерами. Но тем не менее мы всегда находили путь к пониманию и тот путь, по которому готовы идти совместно».

SOS!

**На каждого жителя Беларуси старше 15 лет приходится в среднем 17,5 литра чистого спирта в год, в то время как средний показатель среди всех стран – 6,2 литра.**

***(Продолжение темы на 2-й стр.)***

ТЭМА ДНЯ

# Казлоў і Статкевіч чакаюць рэгістрацыі сваіх ініцыятыўных груп



Сярод тых, хто мае намер паўдзельнічаць у будучых выбарах, нямала вядомых асоб. Некаторыя, як Ірына Дарафеева, пачалі ўжо агітаваць за сваю кандыдатуру. У Мінску акцыі па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты праводзяць ініцыятыўныя групы старшыні Партыі БНФ **Аляксея Янукевіча**, лідара "Тавары праўду!" і экс-кандыдата ў прэзідэнты **Таццяны Караткевіч**, намесніка старшыні руху "За Свабоду" **Юрыя Губарэвічъа**, сяброў АГП **Вольгі Маёравай і Паўла Стэфановіча,** намесніка старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі **Алега Гайдукевіча** і іншыя**.**

ЛДПБ, між іншым, абяцае на гэтых выбарах пакрыць усе акругі, а гэта значыць, мець 110 кандыдатаў. Таму акрамя збору подпісаў партыя будзе вылучаць кандыдатаў на сваім з'ездзе. Сярод вядомых асоб чакаецца ўдзел у выбарчай кампаніі артыста **Яўгена Крыжаноўскага,** ну і, вядома, старшыні партыі **Сяргея Гайдукевіча**.

З'явілася інфармацыя, што не супраць застацца на другі тэрмін у парламенце вядомы спартсмен і член "Белай Русі" **Вадзім Дзевятоўскі.** Як і ЛДПБ , «Белая Русь» таксама хоча вылучыць на выбары 110 кандыдатаў. Спісы абяцаюць хутка агучыць.

Днямі пра свой намер балатавацца ў парламент заявіў былы палітвязень і экс-кандыдат у прэзідэнты **Мікола Статкевіч**. Яго ініцыятыўную групу ўзначаліў паэт і палітык **Уладзімір Някляеў.** Дакументы на рэгістрацыю паплечнікі Статкевіча падалі ў камісію 5 ліпеня. Адказ павінны атрымаць цягам 5 дзён. Статкевіч хоча балатавацца па 105-й Старавіленскай акрузе, у якую ўваходзіць цэнтр Мінска і пасёлак Драздны, дзе жывуць высокапастаўленыя чыноўнікі, а таксама А.Лукашэнка. Але ў Статкевіча ёсць судзімасць. Праўда, на парламенцкіх выбарах у 2008 годзе ён быў у падобнай сітуацыі – таксама меў судзімасць. Але тады яго ініцыятыўную групу зарэгістравалі, праўда, потым сабраныя за палітыка подпісы выбаркам палічыў несапраўднымі і Статкевіч у спіс кандыдатаў у дэпутаты не трапіў.

Таксама 5 ліпеня – толькі ўжо паўторна – дакументы на рэгістрацыю падала ініцыятыўная група сябра АГП, падпалкоўніка міліцыі ў запасе **Мікалая Казлова** *(на фота)*. Першы раз камісія знайшла хібы ў паперах. *"Мы ўсё выправілі,* – кажа Мікалай, – *хаця прэтэнзіі былі смешныя, я нават падаў скаргу ў гарадскую камісію. Зараз, спадзяюся, падстаў не зарэгістраваць маю групу ў камісіі няма. 8 ліпеня павінна адбыцца пасяджэнне камісіі, на якім усё вырашыцца"*. Калі ініцыятыўную групу Казлова не зарэгіструюць, вылучацца ў кандыдаты ён можа ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Мікалай Казлоў вядомы тым, што літаральна кожную выбарчую кампанію выкрывае фальсіфікатараў. На парламенцкіх выбарах 2008 года, яшчэ працуючы ў міліцыі, ён нёс дзяжурства на адным са сталічных участкаў і стаў сведкам таго, як сябры выбарчай камісіі пасля закрыцця ўчастка ўкідвалі бюлетэні ў урну. Казлоў напісаў рапарт, але афіцыйна фальсіфікацыі прызнаны не былі. У мінулую прэзідэнцкую кампанію Мікалай Казлоў быў назіральнікам на сталічным участку №24 і зноў заявіў аб фальсіфікацыях – літаральна схапіў за руку настаўнікаў суседняй школы, якія не маглі галасаваць на гэтым участку, а таксама западозрыў на ўчастку "карусельшчыкаў". Казлоў быў упэўнены, што фактамі, пра якія ён заявіў публічна, зацікавіцца ў Цэнтрвыбаркаме, пракуратура дасць ім прававую ацэнку. Але гэтага не адбылося, тады ён вырашыў выкрыць фальсіфікатараў праз суд, і, як кажа сам, справа яшчэ не скончылася.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ДА ВЕДАМА

Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты пачалося 3 ліпеня. Вылучаць іх могуць палітычныя партыі, працоўныя калектывы і грамадзяне. Але, калі адбываецца вылучэнне ад грамадзян, прэтэндэнт мусіць стварыць сваю ініцыятыўную групу ў складзе не менш за 10 чалавек, якая павінна быць зарэгістравана ў выбаркаме акругі. Тэрмін, адведзены на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы, невялікі – прадаставіць неабходныя дакументы ў акруговую камісію патэнцыяльны кандыдат мусіў не пазней 7 ліпеня.

Рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты запланавана на 2–11 жніўня. Тыя кандыдаты, якія будуць зарэгістраваны, змогуць весці агітацыю да 10 верасня ўключна.

СТАЛІЦА

## Новы тэрмін – 2019 год

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ, якім вызначаны новы тэрмін заканчэння будаўніцтва гатэльнага комплексу ў Мінску каля цырка на беразе Свіслачы, які атрымаў у народзе назву «Не-Кемпінскі». Гэта канец 2018 года, то бок наваселле павінна спраўляцца 1 студзеня 2019 года?

Як вядома, спачатку гатэль мусілі адкрыць да чэмпіянату свету па хакеі, які праходзіў у Мінску ў маі 2015 года. Але не паспелі і аб'явілі аб адтэрміноўцы на канец 2015-га. Але "Не-Кемпінскі" дагэтуль знаходзіцца ў стадыі будаўніцтва. Гэтым па-ранейшаму займаецца кампанія «Эліт-Эстэйт», даччынае прадпрыемства «Трайпла», якое належыць арыштаванаму Юрыю Чыжу.

Але цяпер беларускім банкам БПС, ВТБ і "Белінвестбанку" дазволена ў сувязі з крэдытаваннем будаўніцтва адкладваць сумы запазычанасці забудоўцы на будучыя выдаткі. Забудоўцу вызваляць ад вяртання льготаў і прэферэнцый, а будынкі – ад падатку на нерухомасць да прыёмкі ў эксплуатацыю.

Новага пакупніка для «Не-Кемпінскі» усё яшчэ шукаюць. Раней Лукашэнка заяўляў, што даўгабуд хочуць набыць расіяне, казахі і катарцы. Пакуль жа Мінгарвыканкаму даручана, калі нехта выкупіць «Не-Кемпінскі», прывесці інвестыцыйную дамову ў адпаведнасць з новым указам.

ФАКТ

## Тытунь, гарэлка, паліва

Міністэрства па падатках і зборах паведаміла пра напаўненне бюджэту сталічнымі прадпрыемствамі.

За студзень–май 2015 года ад плацельшчыкаў Мінска ў кансалідаваны бюджэт Беларусі паступіла 41,9 трлн рублёў. Буйнымі арганізацыямі Мінска выплачана ў бюджэт 13,5 трлн рублёў, або 32,2% кансалідаваных даходаў горада.

У рэйтынгу найбуйнейшых плацельшчыкаў – ААТ «Газпром трансгаз Беларусь», ЗТАА «Лукойл Беларусь», ТАА «Тытунь-інвест», ЗАТ «Мінскі завод вінаградных він», унітарнае прадпрыемства «Велком», ЗТАА «Газпромнефть-Белнефтепродукт», СТАА «Мабільныя ТэлеСістэмы», РУП «Мінскэнерга», ЗАТ «Беларуская нафтавая кампанія», ААТ «Мінск Крышталь».

ДАРЭЧЫ

# Дарафеева ідзе ў дэпутаты

*Каля сталічнага ГУМа з'явіліся перадвыбарныя пікеты заслужанай артысткі Беларусі Ірыны Дарафеевай.*



Каб стаць кандыдатам у дэпутаты, неабходна сабраць 1000 подпісаў, а дакументы для рэгістрацыі падаць у выбаркам акругі да 1 жніўня ўключна.

За Дарафееву агітуюць студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў – яны ўваходзяць у ініцыятыўную групу спявачкі, а рэктар установы Юрый Бондар – кіраўнік яе ініцыятыўнай групы. Дарафеева, як вядома, выкладае ў гэтай ВНУ.

*"Так, я хачу стаць дэпутатам. Іду ў 105-й выбарчай акрузе, гэта ў Цэнтральным раёне Мінска"*, – расказала Ірына Дарафеева. Але больш падрабязна пра свае планы на парламенцкую дзейнасць пакуль гаварыць не спяшаецца, абмяжоўваецца дзяжурнымі фразамі кшталту "вырашыла паспрабаваць нешта новае".

Варта адзначыць, што ў апошнія гады папулярнасць Ірыны Дарафеевай некалькі паменшылася. Заслужаная артыстка Беларусі не дае сольных канцэртаў, рэдка выступае на сцэне. Адно з яе апошніх выступленняў было ў жніўні мінулага года на Дні агурка ў Шклове – Дарафеева была сярод выканаўцаў, якія выступалі там на святочным канцэрце. На афіцыйнай старонцы спявачкі ў інтэрнэце апошні запіс, які тычыцца яе творчай дзейнасці, датаваны ліпенем мінулага года – Ірына Дарафеева выходзіла на сцэну "Славянскага базару" ў Віцебску.

Магчыма, гэта звязана з загружанасцю 38-гадовай спявачкі на асноўным месцы працы – з 2012 года Дарафеева не проста выкладае ва Універсітэце культуры, але і ўзначальвае кафедру "Мастацтва эстрады". "*За 10 гадоў сваёй педагагічнай дзейнасці Ірына Дарафеева падрыхтавала многіх маладых выканаўцаў, у тым ліку сваіх студэнтаў, да ўдзелу ў міжнародных песенных конкурсах. На іх рахунку больш за 30 перамог і лаўрэацкіх званняў*", – адзначаецца на афіцыйнай старонцы спявачкі ў інтэрнэце.

Як вядома, у 2007 годзе Дарафеева была абрана Тварам Беларусі. Тады паведамлялася, што Аляксандр Лукашэнка нават падпісаў план мерапрыемстваў па рэалізацыі піяр-акцыі "Ірына Дарафеева – твар Беларусі", малюнкі і лагатыпы спявачкі з'явіліся на бігбордах па ўсёй краіне. Дарэчы, у 2007 годзе Дарафеевай указам прэзідэнта было прысвоена званне заслужанай артысткі Беларусі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## Першыя абяцанні пра зарплату

Кіраўнік ініцыятыўнай групы Дарафеевай, рэктар універсітэта культуры Юрый Бондар расказаў пра тое, чым будзе займацца спявачка, калі трапіць у парламент.

*"Ірына – чалавек са стрыжнем, можа дамагчыся свайго,* – заявіў ён БелаПАН. – *Калі яна задасца мэтай, то зробіць усё як дэпутат, каб змяніць сітуацыю з зарплатамі ў сферы культуры. Але работнікам культуры таксама трэба варушыцца – узровень заробкаў розны. Хтосьці скардзіцца, што ў маладых спецыялістаў зарплата 2,8 мільёна рублёў, але ў нашым універсітэце малады спецыяліст атрымлівае не менш за 4 мільёны рублёў. Усё залежыць яшчэ і ад кіраўніцтва і правільнага менеджменту"*.

РУБАМ!

Сяргей ЗАКОННІКАЎ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі:

## «Што вы збіраецеся паўтараць?»

"У Расіі да 9 мая 2016 года прыдумалі і агучылі лозунг "Можем повторить!». А што вы збіраецеся паўтараць? Можа, гэтыя жудасныя лічбы: за вайну ў палон трапіла 4 мільёны 559 тысяч вайскоўцаў, толькі пад Ржэвам загінула 2 мільёны, пад Сталінградам – 1 мільён 300 тысяч савецкіх салдат і афіцэраў? Можа, паўторыце пакуты соцень тысяч акружэнцаў, якія з голаду елі кару дрэў? Чым хваліцеся? Тым, што вайна легла на плечы жанчын, якія спявалі прыпеўку: "Я і трактар, я і бык, я і баба, і мужык"? Можа, тым, што каля станкоў стаялі дзеці, трацячы прытомнасць ад стомы і голаду? А яшчэ два з паловай мільёны салдат і афіцэраў пахаваны за мяжой. Вы гэта хочаце паўтарыць, калі вымалёўваеце на танку "Іосіф Сталін" і абяцаеце на ім прарвацца ў Еўропу?"

("СН".)

ПРОБЛЕМА!

## В Беларуси станет больше ЛТП

*А ночную продажу алкоголя могут снова запретить.*

В стране разработана новая программа – «Предупреждение и преодоление пьянства и алкоголизма» на 2016–2020 годы.

Любопытно, что подробности документа раскрывает пресс-служба «Белой Руси». Новую программу провластная структура называет *кардинальной реформой* и не скрывает, что на ее проведение власти подтолкнула аховая ситуация с пьянством в стране. По итогам 2015 года белорусы стали самой пьющей нацией планеты. На каждого жителя Беларуси старше 15 лет приходится в среднем за год 17,5 литра чистого спирта, в то время как средний показатель среди всех стран – 6,2 литра.

Что нового предлагают разработчики программы? В основном все то, о чем власти говорят уже на протяжении 23 лет.

Авторы документа выступают за то, чтобы в стране стало больше зон, свободных от торговли алкоголем, как это уже действует в парках. В этот список должны попасть, например, торговые центры и супермаркеты, которые находятся в непосредственной близости от школ, вузов, учреждений здравоохранения и культуры, спортивных объектов. Вновь заговорили о том, чтобы ограничить продажу алкоголя и к 2017 году вернуться к тому, что уже начинали делать, – разрешить продажу спиртного только с 9:00 до 22:00. Естественно, больше материалов о вреде алкоголя должно появляться в прессе и рекламе.

Некоторые мероприятия, предусмотренные новым документом, свидетельствуют о том, что борьбу с пьянством, несмотря на принимаемые противоалкогольные госпрограммы, власти проиграли. Иначе как объяснить тот факт, что новой программой предусмотрен рост количества лечебно-трудовых профилакториев, а в Минске к 2020 году планируют построить клинический центр «Наркология».

Еще любопытный момент. «*С непростой категорией граждан будут действовать по методу кнута и пряника*», – сообщает пресс-служба «Белой Руси». Это значит, что от лечения пьяниц власти не отказываются – через специализированные организации им будет оказываться психологическая помощь, но те, кому алкоголь мешает работать, могут быть отстранены от трудовой деятельности вовсе. Судя по всему, ряды тунеядцев в стране увеличатся.

Существенным новшеством в борьбе с пьянством можно было бы назвать то, что авторы программы предлагают изменить размеры акцизов на алкоголь, что, естественно, должно отразиться на цене спиртных напитков. Сегодня водка один из самых доступных товаров в Беларуси. Журналисты подсчитали, что в 1986 году на среднюю зарплату белорус мог купить около 20 бутылок водки, а сегодня – 120! Однако изменить размер акцизов – это значит то, что они будут варьироваться пропорционально заработной плате, инфляции и иным факторам экономики. «*Возникает вопрос: если изменять акцизы, то в какую сторону? Если их повысить – алкоголь подорожает, спрос упадет, а это создаст брешь в бюджете*, – считают в «Белой Руси». – *Не секрет, что производство и реализация спиртных напитков считается не последним по важности элементом белорусской экономики. Спорную ситуацию будут решать через переориентацию рынка: большая часть алкогольной продукции теперь пойдет на экспорт, а остальное попадет на белорусские прилавки по остаточному принципу*».

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПАМЯЦЬ

# Трагічны лёс Дзмітрыя Завадскага

Учора споўнілася 16 гадоў з таго дня, калі пры нявысветленых абставінах знік наш калега Дзмітрый Завадскі.

За гэтыя гады праваахоўныя органы Беларусі так і не адказалі на пытанні, хто быў арганізатарам і выканаўцам гэтага злачынства і што насамрэч здарылася з Дзмітрыем.

Па факце знікнення Дзмітрыя была ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле «забойства», аднак потым абвінавачанне было перакваліфікавана на «выкраданне і незаконнае пазбаўленне чалавека волі».

14 сакавіка 2002 года Мінскі абласны суд прызнаў вінаватымі ў выкраданні Завадскага афіцэраў спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча і Максіма Маліка (асуджаны на пажыццёвае зняволенне), былога курсанта Акадэміі МУС Аляксея Гуза (асуджаны на 25 гадоў пазбаўлення волі), а таксама грамадзяніна Сяргея Савушкіна (ужо выйшаў на волю).




Паводле меркавання абвінавачання, матывам злачынства сталася помста: маўляў, Завадскі публічна абвінаваціў Ігнатовіча ва ўдзеле ў вайне на баку чачэнскіх байцоў. Аднак ніхто з асуджаных не прызнаў сваёй віны ні па адным з эпізодаў.

27 лістапада 2003 года суд Фрунзенскага раёна г.Мінска прызнаў зніклага журналіста памерлым. Між тым цела Дзмітрыя Завадскага дагэтуль не знойдзена.

Расследаванне па справе аб знікненні Завадскага некалькі разоў аднаўлялася «ў сувязі з наноў адкрытымі абставінамі» і прыпынялася зноў са спасылкай на «необнаружение безвестно исчезнувшего лица», аднак выніку не прынесла.

Вясной 2016 года былая жонка зніклага Святлана Завадская як пацярпелая па справе аб знікненні Завадскага двойчы звярталася ў Следчы камітэт з хадайніцтвам пра атрыманне інфармацыі па крымінальнай справе і копій шэрагу працэсуальных дакументаў.

С.Завадская прасіла Следчы камітэт паведаміць, ці аднаўлялася папярэдняе расследаванне справы, і калі не – дык па якіх прычынах. Таксама яна прасіла выдаць ёй копіі пастаноў пра ўзбуджэнне крымінальнай справы, вылучэнне матэрыялаў у асобную вытворчасць і прыпыненне вытворчасці па крымінальнай справе. Яна ўказала, што копіі працэсуальных дакументаў ёй неабходны для абскарджвання дзеянняў (бяздзеяння) органа крымінальнага пераследу.

У адказ Святлане Завадскай паведамілі, што вытворчасць па крымінальнай справе прыпынена і што закон не прадугледжвае права пацярпелага атрымліваць копіі названых працэсуальных дакументаў.

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" па-ранейшаму патрабуе ад кампетэнтных органаў поўнага расследавання абставін знікнення Дзмітрыя Завадскага.

Заклікаем прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці не забываць пра справу Завадскага і не даваць забыць яе ўладам да таго часу, пакуль не даведаемся ўсёй праўды пра гэтае злачынства, пакуль не будуць названы імёны яго натхняльнікаў і выканаўцаў, якія павінны панесці пакаранне.

**Беларуская асацыяцыя журналістаў.**

ПОМНИМ...

Светлана ЗАВАДСКАЯ:

## «Сколько еще времени должно пройти, чтобы мы узнали всю правду?»

*16 лет прошло с тех пор, как в аэропорту Минск-2 при невыясненных обстоятельствах был похищен оператор ОРТ Дмитрий Завадский.*
*16 лет…*
*Много это или мало?*
*Вот что об этом говорит вдова Дмитрия Светлана Завадская.*



– Для кого-то 16 лет жизни – это мгновение, а для кого-то – вечность.

Наверное, для нас, близких Дмитрия, эти 16 лет и были той вечностью. Вечностью боли, почти физической, борьбы, слез и бесконечного ожидания. Когда проходишь путь от надежды до отчаянья, от веры до безверия, от страха до бесстрашия.

Самое ужасное, что никто не может сегодня сказать, – сколько еще времени должно пройти, чтобы мы узнали ВСЮ ПРАВДУ.

Сколько нужно еще написать жалоб и ходатайств, организовать пикетов и флешмобов, чтобы власти Беларуси поняли, что судьба Дмитрия волнует многих? И если кто-то думает, что время лечит, а память – вещь короткая, то они ошибаются.

Все, что мы сегодня можем сделать для Димы, – это ПОМНИТЬ о нем и не давать белорусским властям покоя, требовать ответа на вопрос: «ГДЕ ДМИТРИЙ ЗАВАДСКИЙ?»

Дмитрий – «скромный глаз эпохи», – так написала о нем моя любимая журналистка. Благодаря объективу своей телекамеры он стал свидетелем всех важных событий, которые происходили в Беларуси начиная с 1994 года, и его судьба как бы олицетворяет судьбу его любимой Беларуси.

Хочется верить, что когда Беларусь наконец обретет свое место на карте мира как демократическая страна, где уважают права человека и власть соблюдает законы, а не является неприкосновенной кастой избранных, то и судьба Дмитрия обретет свою определенность. Не будет больше тайны его исчезновения, а главное – будут наказаны настоящие виновные в его похищении.

Дима, мы помним о тебе, и нам тебя очень сильно не хватает!

ЧУЛІ?

## Абмежаванні на вываз паліва зняты

Савет міністраў Беларусі прыняў рашэнне аб адмене з 1 верасня 2016 года абмежаванняў на вываз аўтамабільнага паліва з тэрыторыі краіны. Адпаведная пастанова ўрада №526 ад 1 ліпеня 2016 года ўжо апублікавана на Нацыянальным прававым партале.

Як вядома, з лістапада 2011 года грамадзяне нашай краіны маглі выязджаць з Беларусі на аўтамабілі за межы Мытнага саюза адзін раз у восем дзён. Калі ж даводзілася выязджаць часцей, то трэба было заплаціць пошліну на паліва, якая залежала ад ставак экспартных пошлін на нафту і нафтапрадукты, якія пастаянна мяняліся.



ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Михаил Леонов сейчас без работы

*За последние годы экс-гендиректор Минского тракторного завода сменил несколько предприятий.*



**Из личного дела**

*Михаил Леонов родился 5 мая 1953 года.*

*Окончил Могилевский политехнический техникум, Могилевский машиностроительный институт, Академию управления.*

*С июля 1975 года работал на МТЗ.*

*В октябре 1995 года был назначен генеральным директором Минского тракторного завода.*

*Доктор философских наук.*

*Удостаивался званий "Лучший руководитель", "Человек дела".*

Напомним, что жизнь промышленного генерала кардинально изменилась 7 января 2002 года. Леонова, который ехал в Москву к какому-то доктору, задержали ночью в поезде Минск–Москва. Через пару дней его обвинили в совершении ряда экономических преступлений и получении взятки.

23 декабря 2003 года Верховный суд признал Леонова виновным в хищении имущества МТЗ в особо крупном размере, уклонении от уплаты подоходного налога на доход, полученный в результате хищения, отмывании похищенного дохода и получении взятки. Его приговорили к лишению свободы сроком на 10 лет с отбыванием наказания в колонии усиленного режима с конфискацией имущества и без права занимать руководящие должности в течение 5 лет.

Леонов виновным себя не признал.

В 2008 году Леонов написал открытое письмо тогдашнему генпрокурору Григорию Василевичу:

*«Думаю, Вы в курсе того, что семь лет назад я был помещен за решетку по приговору судебной коллегии Верховного суда Республики Беларусь как вор и взяточник, а неуемные «пропагандисты» превратили меня во врага белорусского народа… Однако во всем этом нет ни капли правды и истины.*

*Я считал и считаю, что приговор в отношении меня незаконен, не обоснован, не мотивирован и несправедлив, а с учетом лжи и клеветы, льющейся на меня все эти годы, не возникает никаких сомнений в том, что мое дело сфальсифицировано и носит явно выраженный заказной характер.*

*Свою невиновность по всему объему обвинений я на 300% доказал в ходе судебного разбирательства моего дела в Верховном суде».*

Экс-гендиректор МТЗ по сей день считает себя репрессированным. По одной из версий – за то, что якобы в «Красном доме» стало известно, что он может замахнуться на президентское кресло.

За решеткой он провел восемь лет. Два года убрали по амнистиям. Прошение о помиловании Леонов писать не стал. Не хотел унижаться. И через семь лет (один год отсидел в СИЗО) вышел из тюрьмы непокоренным. Через пару дней после освобождения он сказал журналисту «Народной Воли»: «*Я ни перед кем голову не склонял и не собираюсь склонять. Сейчас много разных разговоров ходит, особенно в интернете, по поводу того, что, мол, Леонов, не болтай, не такой ты чистый... Но это дело совести каждого. А я считал и считаю, что во сто крат чище тех, кто меня сажал. И считаю, что жил и буду жить правильно*».

Через некоторое время после освобождения Михаил Леонов нашел работу на Могилевском вагоностроительном заводе. Он был первым заместителем директора по развитию, главным инженером. Параллельно руководил на предприятии филиалом кафедры «Оборудование и технология сварочного производства».

По прошествии нескольких лет Леонов нашел пристанище на другом могилевском предприятии – в холдинге «Группа компаний Протос». Холдинг работает с 1992 года. В его составе четыре самостоятельных подразделения, которые занимаются оптовой торговлей металлопрокатом, производством различных металлических конструкций, международными перевозками грузов, ремонтом и техническим обслуживанием автотранспорта. Правда, по каким-то причинам Леонов, который работал инженером, долго там не задержался.

Затем бывший промышленный генерал совсем недолго работал в одной столичной частной строительной фирме. А сейчас не при делах. Скорее всего – временно.

От интервью Михаил Васильевич Леонов отказывается. Он вообще в последнее время старательно избегает публичности и излишнего внимания к своей персоне. Говорит: хочет пожить спокойно.

Как ни странно, его можно понять.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

РАЗБОР ПОЛЕТОВ

Марина ЛОБАЧ:

## «Белорусам сложно подняться на пьедестал»



*Белорусские гимнастки имеют высокие шансы на призовые места на Играх в Рио. Однако, учитывая отношение к нашим спортсменам, побеждать им предстоит эффектно: не делая ошибок там, где их допускают другие.*
*Такое мнение высказала олимпийская чемпионка 1988 года Марина Лобач во время мастер-класса для участников «Академии бега #velcombegom».*

Белорусские грации сильны как в индивидуальных, так и в групповых упражнениях. «*Но белорусам сложно подняться на пьедестал. Мы выигрываем тем, что практически никогда не допускаем ошибок, в то время как наши соперники их допускают. Поэтому и держимся на высоком уровне*», – считает Марина Лобач.

В то же время конкуренция за медали ожидается серьезная – например, со стороны сборных России, Украины, Испании, Италии, Болгарии, Южной Кореи и Израиля. «*Перспективы у нас есть. Но в художественной гимнастике сложно предсказать результат. Тем более что много стран могут претендовать на первые три места. Если раньше было 30 стран-участниц, то сейчас – почти в два раза больше*», – отметила известная гимнастка.

Олимпийская чемпионка призналась, что ей импонирует мотивация **Мелитины Станюты:** «*Она очень любит выступать. Мотивация побеждать есть у многих, но у одних это на соревнованиях видно, а у других – нет. Так вот Мелитина занимается художественной гимнастикой, чтобы побеждать. И это правильно: нужно уметь выступать лучше, чем ты тренируешься*».

По ее словам, из большого спорта нужно уходить вовремя: «*После Игр в Сеуле был чемпионат Советского Союза, где была очень серьезная борьба. У меня тогда что-то не получилось, я чувствовала очень сильное давление – вперед вели другого человека. По идее, я могла бы еще бороться, но дальше было бы сложнее. И я сказала себе, что лучше останусь тем, кто я есть, чем буду падать вниз*».

Сейчас Марина Лобач тренирует детей в возрасте от 9 лет.

«*Когда-то я всем говорила, что после спорта не будет никакого спорта. Но так получилось, что я окончила институт и стала государственным тренером, а это, как оказалось, во многом бумажная и нелегкая работа. И вот я вернулась в зал – работала в удовольствие. И всегда считаю, что то, чем я занимаюсь, – это любимое дело*», – призналась золотая медалистка Сеула.

Вести детей в художественную гимнастику она советует с 5–6 лет. Но в первые три года сложно предсказать, сможет ли ребенок стать профессиональным спортсменом. «*Четких критериев нет. В основном получается у тех детей, которые, несмотря ни на что, идут вперед. Сила воли и мотивация всё решают*», – убеждена известная в прошлом гимнастка.

***Для справки:*** *«Академия бега #velcombegom», которая организовала встречу с известной спортсменкой, готовит начинающих бегунов к преодолению длинных и коротких дистанций. 20 человек проходят двухмесячный «предолимпийский» курс физических тренировок, который приурочен к Играм в Рио. Организаторы академии – компания velcom и образовательный беговой проект YOUCAN. Выпускной забег пройдет во время открытия Олимпиады, а все километры, которые преодолеют участники, будут переведены в рубли и направлены на помощь детям с инвалидностью.*

ДАЛЁКАЕ – БЛІЗКАЕ




# Заўтра многія з іх сустрэнуцца.

*Праз 50 гадоў*

Так, паўвека мінула пасля таго, як яны закончылі Лышчанскую сярэднюю школу, што на Піншчыне. Выпускнікі 1966 года – 10 "А" і 10 "Б" класаў. Паралельна тады атрымалі атэстаты і тыя, хто вучыўся па адзінаццацігадовай праграме. І іх таксама было нямала. Можаце ўявіць, які шалёны конкурс быў тым летам пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы!

Традыцыйна заўтрашняя сустрэча выпускнікоў ужо далёкага 1966 года пачнецца з наведвання роднай школы, якую вы бачыце на здымку і якая не вельмі змянілася з тых даўніх часоў.

І, вядома ж, будуць успаміны пра шчаслівыя юнацкія гады, пра родных і блізкіх, пра настаўнікаў.

На жаль, не ўсе дажылі да сённяшніх дзён…

БОЛЬ

*В минувшем году двухлетняя Женя Кудрявцева из Полоцка стала инвалидом. Врачи не заметили в организме ребенка батарейку, которую она случайно проглотила, и лечили от бронхита. В июне состоялся суд над полоцкими медиками, а несколько дней назад пострадавшая девочка вернулась из Словакии, где проходила курс реабилитации. «Народная Воля» связалась с мамой Жени и поинтересовалась последними новостями.*

# На поправку!



– *В первую очередь хочу поблагодарить людей, которые оказали нам помощь!* – сразу сказала Екатерина Кудрявцева. – *На благотворительный счет поступали деньги со всей страны. Курс лечения в европейской клинике обошелся в 6 тысяч евро, и без посторонней помощи нам было бы трудно.*

По словам Екатерины, тринадцатидневное лечение пошло на пользу, а словацкие специалисты сделали благоприятные прогнозы.

– *Сейчас суставы Жени функционируют как надо*, – рассказывает Екатерина о лечении в Словакии. – *Говоря медицинским языком, нам «сняли блоки», которые возникают из-за длительного отсутствия движения. Женя пытается говорить, также медики заверили, что она понимает окружающих. Врачи обнадежили, что все будет хорошо, ребенок восстанавливается.*

Перед отъездом в Беларусь словацкие специалисты дали ряд рекомендаций по лечению. По словам Екатерины Кудрявцевой, специальные физические упражнения нужно обязательно делать и в домашних условиях.

В месяц на лекарства уходит более 100 евро (препараты покупают за границей), кроме этого ребенку необходим регулярный профессиональный массаж.

Напомним, что трагедия в семье Кудрявцевых произошла в августе прошлого года. Двухлетняя Женя проглотила литиевую батарейку, которая лежала в комнате на столе. У ребенка резко ухудшилось самочувствие, пропал аппетит, началась рвота. Испуганные родители, недосчитавшись батарейки, сразу же вызвали «скорую».

– *Мы сообщили медикам, что девочка могла проглотить батарейку,* – вспоминает Екатерина Кудрявцева. – *Нас отвезли в больницу и сделали рентген брюшной полости. Как выяснилось позже, на снимке часть батарейки была видна, но ее не заметили. Врачи сказали, что у ребенка отравление, и отправили к педиатру.*

Через несколько дней состояние Жени резко ухудшилось: у нее поднялась высокая температура. Родители вновь высказали предположение, что в организме может находиться батарейка, но повторный снимок ничего не показал. Врачи диагностировали у Жени бронхит и направили в детскую больницу.

Уже 20 августа у девочки начались осложнения, и она впала в кому. Как вспоминает Екатерина Кудрявцева, Женя оказалась в реанимации, а через некоторое время ее перевезли в Минск.

– *Столичные медики провели операцию и извлекли батарейку из организма,* – говорит мама Жени. – *Надеялись, что пищевод затянется, но потом снова начались осложнения: открылось кровотечение. Когда удалили пищевод, увидели, что пострадали трахея и аорта. Из-за этого пострадал мозг... Минские врачи удивлялись, как после всего этого девочка смогла выжить!*

### Повторный иск

Осенью Жене Кудрявцевой предстоит еще одна операция. По словам Екатерины, в следующем году нужно будет пройти повторный реабилитационный курс в Словакии.

– *На октябрь у нас запланирована операция по восстановлению пищевода,* – говорит мама Жени. – *Надеемся, что все наладится. Она у нас молодец, врачи в Словакии говорили, что ребенок старается…*

Еще в прошлом году против полоцких медиков, которые обследовали Женю Кудрявцеву, завели уголовное дело. На прошедшем судебном заседании хирург **Максим Анискевич** был лишен права заниматься медицинской практикой на два года и оштрафован на 150 базовых величин (тридцать один миллион пятьсот тысяч рублей старыми), врач-рентгенолог **Тамара Чепик** обязана выплатить 500 базовых величин (сто пять миллионов рублей прежними деньгами).

Родители Жени намерены обжаловать решение суда.

– *Будем подавать иск не на отдельных медиков, а на больницу,* – говорит Екатерина Кудрявцева. – *Поймите, что реабилитация стоит денег, я вынуждена просить и обивать разные пороги на лечение. Восстановление нужно, чтобы поставить Женю на ноги, и это ведь не тот процесс, когда один раз съездил – и все хорошо. Это долгосрочная и дорогостоящая работа. Еще раз хочу сказать спасибо людям, которые нам помогли!*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

КСТАТИ

### Оказать помощь в реабилитации Жени Кудрявцевой может любой желающий

Благотворительные счета открыты в филиале 216 – г.Полоцк, ул.Ф.Скорины, 4; УНП 300230580; МФО 150801648:

– белорусские рубли – транзитный счет 3819382106849 на благотворительный счет 000020 в филиале 216, бессрочный;

– евро – транзитный счет 3819382311360 на благотворительный счет 000010 в филиале 216, бессрочный;

– российские рубли – транзитный счет 3819382311360 на благотворительный счет 000010 в филиале 216, бессрочный;

– доллары США – транзитный счет 381938211360 на благотворительный счет 000038 в филиале 216, бессрочный.

Назначение платежа: Для зачисления на благотворительный счет, открытый на имя Кудрявцевой Екатерины Викторовны на лечение дочери Кудрявцевой Жени.

ДА ВЕДАМА

## Не паспелі прыватызаваць жыллё – у жніўні атрымаеце плацежку за арэнду

Як вядома, з 1 ліпеня ў Беларусі скончылася прыватызацыя дзяржаўнага жылля. Цяпер усе тыя, хто не аформіў кватэру альбо дом ва ўласную маёмасць, і нават тыя, хто падаў дакументы на прыватызацыю кватэры, але яшчэ чакае завяршэння працэсу, будуць вымушаны плаціць арэнду, бо з 1 ліпеня ўсё непрыватызаванае жыллё аўтаматычна робіцца камерцыйным (арэндным).

Прычым тым грамадзянам, якія спазніліся з прыватызацыяй і толькі паспелі аддаць дакументы, арэндная плата будзе налічвацца да таго часу, пакуль не будзе выдадзена пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі (прыватызацыі).

– *У гэтым выпадку будзе праведзены пераразлік, грамадзяне перастануць плаціць арэнду,* – растлумачыла tut.by начальнік жыллёва-камунальнага аддзела філіяла "Адзіны разліковa-даведачны цэнтр г.Мінска" **Святлана Дзергачова.**

Што тычыцца арэнднай платы, то першыя жыроўкі з налічанай арэнднай платай за камерцыйнае жыллё грамадзяне атрымаюць у жніўні – плаціць будуць за ліпень.

– У паведамленні асобным радком будзе прапісана сума арэнднай платы, разлічаная па спецыяльнай формуле з ужываннем паніжальнага каэфіцыента ў памеры 0,2 для Мінска і 0,1 для астатніх рэгіёнаў, – удакладніла Святлана Дзергачова.

А вось маламаёмасным грамадзянам, хто перавёў арэндную кватэру ў сацыяльную, плаціць дзяржаве не давядзецца. Гэтай магчымасцю, напрыклад, маглі скарыстацца адзінокія пенсіянеры, ветэраны і інваліды Вялікай Айчыннай вайны, інваліды I і II груп, шматдзетныя сем'і, а таксама маці, якім прысвоена званне "Маці-гераіня", і іншыя.

Народная Воля http://www.nv-online.info 8 ЛІПЕНЯ 2016 г.

# 134 гады мінула з дня нараджэння Янкі Купалы

# Жыве Прарок і будзе жыць!



*Ён прыйшоў у гэты свет чароўнай купальскай парой, калі беларусы на вяршыні лета спрадвеку ладзяць непаўторнае, прыгожае свята агнявістай радасці і кахання, шукаюць на шчасце казачную папараць-кветку, пускаюць вянкі па вадзе, скачуць парамі праз вогнішча, варожаць на лепшую будучыню.*

*Хлопчык, народжаны 134 гады таму пад купальскія песні, стаў паэтам і ўзяў сабе імя ад роднай зямлі – Янка Купала.*

*Імя беларускага Прарока, несмяротнага Песняра і найвялікшага сына Бацькаўшчыны – святое для кожнага з нас. Усё жыццё ён шукаў кветку шчасця і волі для народа, нёс у сэрцы і выліваў у сваім паэтычным слове боль і беды дарагіх землякоў, увасабляў іх надзеі на светлую зорку над галавой. Гэта яго вокліч "Жыве Беларусь!" ніколі не сціхае ў нашых душах. Гэта яго то пяшчотныя, то гнеўныя песні кранаюць да слёз ужо нямала пакаленняў. Усё, што дорага нам і што пячэ сэрца, стане такім жа блізкім і незаменным нашым нашчадкам, пакуль будзе трымацца планета Зямля. А значыць, жыве і будзе жыць беларускі Прарок на вякі вечныя!*

*Сёння мы нагадваем толькі адзін верш, напісаны вялікім Празорцам 109 гадоў таму. Але ён такі ж актуальны, гарачы і таксама хвалюе, як і тады, бо напісаны не чарніламі – крывёю сэрца аб самым хвалюючым – лёсе роднага слова.*

Янка КУПАЛА

## Ворагам Беларушчыны

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб тэй мове,
Якой азваўся беларус?

Чаму вам дзіка яго мова?
Паверце, вашай ён не ўкраў,
Сваё ён толькі ўспомніў слова,
З якім радзіўся, падрастаў.

Цяпер і вы загаварылі,
З апекай выйшлі, як з зямлі;
А што ж дагэтуль вы рабілі?
А дзе ж дагэтуль вы былі?

Ваш брат і цёмны, і галодны;
Хацінка свой зжывае век;
І век не знаў ён дум свабодных,
І крыўдзіў свой брат – чалавек.

Вам страшна нашай слёзнай песні
І жальбы страшна вам глухой?
Вам жудка сонца напрадвесні?
Мілей вам холад з цемнатой?

А што ж вам беларус такога
Пасмеў зрабіць, пасмеў сказаць?
Эх, трэба ўчыць яшчэ вас многа,
Як свайго брата шанаваць!

Эх, кіньце крыўдамі карміцца, –
Кожны народ сам сабе пан;
І беларус можа змясціцца
Ў сям'і нялічанай славян!

Напасцю, лаянкай напраснай
Грудзей не варта мазаліць!
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў беларус і будзе жыць!

Не столькі "хамскія" натуры
На карках вынеслі сваіх!
І свіст даношчыкаў пануры,
Паверце, не запудзіць іх!

К свабодзе, роўнасці і знанню
Мы працярэбім сабе след!
І будзе ўнукаў панаванне
Там, дзе сягоння плача дзед!

*1907.*

ПАМЯЦЬ

# Княгіня можа вярнуцца ў Беларусь…



*Нашчадкі Марыі Магдалены РАДЗІВІЛ намагаюцца перазахавання яе парэшткаў у Беларусі. З гэтай місіяй прыехалі на радзіму продкаў прадстаўнікі роду Радзівілаў Шыдлавецкай лініі, якіх раней называлі "графамі на Шыдлоўцы і Паланечцы", – Мацей і Мікалай РАДЗІВІЛЫ.*

Паводле іх слоў, гэта лагічна, каб парэшткі княгіні былі тут, бо "*Магдалена была самай "беларускай" з роду Радзівілаў*". Сапраўды, Марыя Магдалена Радзівіл, якая паходзіла з роду **Завішаў**, была самай вядомай мецэнаткай беларускай культуры пачатку XX стагоддзя. На тытульным аркушы зборніка вершаў **Максіма Багдановіча** "Вянок" быў надрукаваны герб Завішаў – "Лебедзь". Гэта была своеасаблівая падзяка мецэнатцы за фінансаванне ад выдаўцоў **Вацлава Іваноўскага** і **Івана Луцкевіча**.

Жыццё Марыі Магдалены было няпростым. Нарадзілася яна 8 ліпеня 1861 года ў Варшаве. Але дзяцінства яе прайшло ў родавых маёнтках Жарноўцы і Кухцічы Ігуменскага павета. Бацька, граф Завіша-Кіжгайла, быў вядомым археолагам і этнографам. Гэта ён прывіў сваім дочкам любоў да Радзімы. У доме заўсёды размаўлялі па-беларуску. Ад першага шлюбу Магдалена нарадзіла дачку. Аўдавела яна ў 1895 годзе. А ў 1906 годзе яна пабралася шлюбам з Мікалаем Радзівілам, які быў маладзейшы за яе на 19 гадоў. Можна ўявіць, чаго гэта каштавала жанчыне ў тую эпоху. Натуральна, польскае грамадства не прыняла гэты шлюб і адвярнулася ад маладажонаў. Тады яны пераехалі з Варшавы ў Беларусь. Муж захапіўся збіраннем фальклору. Марыя Магдалена прыкладала шмат намаганняў для падрыхтоўкі нацыянальных кадраў. У сваіх вёсках Кухцічы, Каменка і Узда адчыніла і фінансавала беларускія школы. Заснавала таварыствы цвярозасці. Дапамагала грашыма студэнтам Віленскага і іншых універсітэтаў. Устанавіла для іх некалькі стыпендый. Дапамагала бібліятэцы беларускага гуртка пры Духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. Падтрымлівала матэрыяльна беларускіх католікаў. Аказала фінансавую дапамогу для будаўніцтва трох будынкаў інтэрната семінарыстаў у Вільні. У 1917 годзе Магдалена Радзівіл перадала сваё дыяментавае кальe на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме.

Аднак галоўнае, чым вызначылася Марыя Магдалена ў гэты час, была падтрымка першых перыядычных беларускіх выданняў. Яна апекавала выдавецтва «Загляне сонца ў наша ваконца» ў Пецярбургу, Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні, «Нашу Ніву», каталіцкі клерыкальны часопіс «Bielarus», які выходзіў на лацінцы, іншыя выданні. Аказвала ўсебаковую дапамогу творчай моладзі. За яе грошы былі надрукаваны першыя кнігі **Максіма Багдановіча**, **Канстанцыі Буйло** і іншых пачаткоўцаў.

Падтрымлівала Марыя Магдалена і літоўскіх католікаў. У 1912 годзе для іх у Лондане быў пабудаваны касцёл. Праўда, з умовай – «каб ім не карысталіся палякі». Яе любімы муж усяляк дапамагаў ёй.

Усё змяніла Першая сусветная вайна. Мікалай Радзівіл ваяваў у царскім войску і загінуў на франтах Усходняй Прусіі ў 1914 годзе… Дом Магдалены ў Мінску і палац у Кухцічах з 1915 года па 1918-ы сталі месцамі сустрэч **Рамана Скірмунта**, **Вацлава Іваноўскага**, **Аляксандра Уласава**, **Івана** і **Антона Луцкевічаў**. Марыя Магдалена падтрымлівала іх усіх маральна і матэрыяльна. У 1915 годзе яна стала ганаровым сябрам Цэнтральнага камітэта Літвы па справе дапамогі інвалідам вайны. Яна абвясціла сябе грамадзянкай **Беларускай Народнай Рэспублікі**, а напрыканцы 1918 года перад самым прыходам Чырвонай Арміі выехала ў Варшаву. У 1919 годзе савецкія ўлады адмовілі ёй ва ўездзе ў краіну, і больш ніколі яна не змагла вярнуцца на сваю Радзіму.

Марыя Магдалена выношвала ідэю выпрацоўкі канцэпцыі, якая магла б прывесці да ўтварэння уніі паміж беларускімі і польскімі землямі. Аднак палякам гэта ідэя прыйшлася не даспадобы. Пасля гэтага Марыя Магдалена вырашыла канчаткова парваць з Польшчай. У 1922 годзе яна перабралася ў Літву і пасялілася ў Коўна. Літоўскі ўрад за дабрачынную і фундатарскую дзейнасць узнагародзіў Магдалену ордэнам "Вялікі крыж Гедзіміна". Потым былі Германія, а пасля таго, як на пачатку 30-х гадоў Баварыю ахапіў фашысцкі рух, яна перабралася з дачкой у Швейцарыю. Там яна спыніла свой выбар на кляштары дамініканак у горадзе Фрыбург, вядомым жорсткасцю свайго статута. Аднак і там яна працягвала фінансаваць беларускія арганізацыі, якія знаходзіліся ў Польшчы. У 1935 годзе яна здзейсніла акцыю, якая выклікала выбух незадавальнення і крытычных заўваг у асяродку польскай арыстакратыі: на свае грошы пабудавала ў Варшаве дзве школы для яўрэйскіх дзяцей.

Памерла Магдалена 6 студзеня 1945 года. Сёлета адзначаецца 155 год з дня яе нараджэння.

Сёння, у эпоху мабільных камунікацый, нават цяжка ўявіць сабе, як у тыя часы адзін чалавек здолеў столькі зрабіць!



**Мацей РАДЗІВІЛ** сказаў "Народнай Волі":

*– Я мяркую, што перавезці сюды парэшткі Магдалены цалкам магчыма. Мне падаецца, што яна марыла тут жыць і тут памерці. Яна не была палітыкам, але марыла, каб Беларусь была незалежнай і дэмакратычнай краінай. Усё жыццё яна лічыла сябе грамадзянкай Беларусі. Нашчадкі Магдалены таксама хочуць, каб яе парэшткі былі пахаваны тут. Я ўдзельнічаю ў гэтым, бо для мяне вельмі важна, каб наша сям'я ўмацоўвала сувязь з Беларуссю. Я тут сустрэў шмат беларусаў, якіх цікавіць гісторыя роду Радзівілаў, якая традыцыйна была звязана з гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага. Канешне, мне б не хацелася, каб вяртанне парэшткаў Магдалены Радзівіл у Мінск выклікала нейкія канфлікты ці непаразуменні, таму я буду раіцца з рознымі людзьмі. Калі ёсць нейкія перашкоды, то тады няхай яе парэшткі застаюцца там, дзе яны зараз ёсць, – у швейцарскім Фрыбургу.*

Як бы там ні было, але перамовы вядуцца, і, калі яны вырашацца станоўча, парэшткі нашай славутай землячкі перазахаваюць у касцёле Святых Сымона і Алены. Магдалена Радзівіл, дарэчы, жыла ў суседнім доме, які захаваўся да нашых часоў.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# 150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі

*(Працяг. Пачатак у №№3–20, 22, 24, 26–34, 36–39, 41–51.)*

## 126. Як усталёўвалася таталітарная сістэма ў БССР?



*Камсамольцы здымаюць званы з царквы (вёска Саламарэчча пад Мінскам, былы Заслаўскі раён). Замест царквы будзе клуб. Здымак канца 1920-х гадоў.*

Таталітарнай сістэмай называецца такі лад, пры якім дзяржава мае ўсеагульны, «татальны» кантроль над усімі сферамі грамадскага жыцця.

Характэрная рыса таталітарных дзяржаў – панаванне ў іх адной палітычнай арганізацыі. Аднапартыйнасць у БССР (як і ў СССР увогуле) усталявалася пасля 1922 года, калі ў асяроддзі найбуйнейшай апазіцыйнай бальшавікам партыі эсэраў прайшлі масавыя арышты. Паступова камуністычная партыя страціла рысы грамадскай арганізацыі і стала своеасаблівай часткай дзяржаўных структур: партыйныя мерапрыемствы ўскосна ці наўпрост фінансаваліся з дзяржаўнага бюджэту, пастановы партыйных органаў былі абавязковыя для ўсіх дзяржаўных устаноў, а камуністычная ідэалогія стала афіцыйнай.

Неадлучная асаблівасць таталітарызму – жорсткая цэнзура, якая поруч з забаронай апазіцыйных выданняў з'яўляецца выпрабаваным інструментам задушэння свабоды слова і інфармацыі. Яна была ўведзена бальшавікамі неўзабаве пасля захопу ўлады і праіснавала да пачатку 1990-х гадоў.

Барацьбой з іншадумствам, якім лічылі любую нязгоду з афіцыйна вызначаным кірункам грамадскага развіцця, займаліся спецслужбы, што ажыццяўлялі палітычны вышук. Асабліва масавай гэтая барацьба была ў 1930-х гадах, іншадумства разглядалася як контррэвалюцыйная дзейнасць і каралася смерцю. Калі доказы следчых былі недастатковыя для суда, прысуд выносіўся з дапамогаю пазасудовых органаў – «троек», «двоек», трыбуналаў, калегій. Вынішчалі не толькі палітычных апазіцыянераў. Адным з галоўных ворагаў камуністычнай улады было духавенства. Свабоду сумлення бальшавікі трактавалі як свабоду весці атэістычную прапаганду сярод насельніцтва.

Ужо ў першай палове 1930-х гадоў прайшло фактычнае адзяржаўленне грамадскіх арганізацый. Дазваляліся толькі тыя, якія ў сваіх статутах прадугледжвалі дапамогу дзяржаве ва ўсталяванні сацыялізму. Кіраўнікі буйных арганізацый падбіраліся партыйнымі органамі, уваходзілі ў партыйна-дзяржаўны наменклатурны спіс.

Грамадзяне БССР не мелі права свабодна мяняць месца свайго жыхарства. У 1932 годзе была ўведзена прапіска. Таталітарная сістэма ў БССР была закрытая: выезд за межы СССР, часткай якой з'яўлялася наша краіна, для абсалютнай большыні грамадзян да пачатку 1990-х гадоў забараняўся.

Таталітарная сістэма ў СССР прадугледжвала развіццё толькі адной нацыі, на аснове якой стваралася «новая гістарычная супольнасць» – савецкі народ. Беларусі тут адводзілася роля своеасаблівага палігона. Вынікі гэтага эксперымента ўражваюць: катастрафічна звузілася ўжыванне беларускай мовы, для сотняў тысяч беларусаў сталі звычайнымі гістарычная бяспамятнасць і абыякавасць да лёсу сваёй нацыі.

Вельмі негатыўна на духоўным развіцці беларусаў адбіўся жорсткі дзяржаўна-партыйны кантроль за дзейнасцю творчай інтэлігенцыі. Формы гэтага кантролю былі розныя – ад подкупу шляхам стварэння матэрыяльных ільгот да фізічнага вынішчэння непакорлівых.

Савецкая таталітарная сістэма мела сваю адметнасць: яна поўнасцю кантралявала эканамічнае развіццё, вынікам чаго стала ўмацаванне бюракратычнага апарату. Падвышэнне дабрабыту людзей было другараднай задачай, іх заклікалі да сціплага існавання ў імя вялікіх ідэй ці будучых даброт. Чынавенства займалася размеркаваннем таго, што стварылі людзі сваёй штодзённай працай. Але паколькі патрэбы значна перавышалі магчымасці іх задавальнення, тыя, хто меў дачыненне да размеркавання, атрымлівалі больш за астатніх.

Размеркавальная сістэма, пабудаваная на дзяржаўнай уласнасці, не заахвочвала людзей да плённай працы. Шырока распаўсюджвалася практыка прымусовай працы. Спецыяльна дзеля гэтага была створана сістэма ГУЛАГу, уведзены жорсткія пакаранні за парушэнне працоўнай дысцыпліны. Да кантролю за выкананнем вытворчых планаў далучаліся спецслужбы.

Эканоміка Беларусі, у значнай ступені скіраваная «на вайну», сталася важным прыдаткам ваенна-прамысловага комплексу СССР. Бальшавіцкае імкненне да сусветнага панавання падавалася ў выглядзе «непазбежнасці сусветнай рэвалюцыі», «пашырэння сацыялістычнага лагера» і т.п.

Таталітарызм у СССР усталёўваўся ў форме «культу асобы», спачатку Леніна–Сталіна, затым Хрушчова, Брэжнева, Гарбачова. Жаданне надаць савецкай сістэме дэмакратычнае аблічча прывяло да «перабудовы», якая вызначыла пачатак разбурэння таталітарных рэжымаў у большай частцы сацыялістычных краін.

Трэба адзначыць, што таталітарная сістэма ў Беларусі ўкаранілася больш трывала, чым у іншых рэспубліках СССР. Працэс «перабудовы» тут (пад прыкрыццём нібыта «барацьбы з карупцыяй») фактычна быў накіраваны на яе ўмацаванне праз увядзенне аўтарытарнага кіравання, прэзідэнцкай «вертыкалі», праз павелічэнне колькасці міліцыі, праз дзяржаўную манапалізацыю сродкаў масавай інфармацыі і адмову ад эканамічных рэформаў.

## 127. Якія пласты беларускага народа найбольш пацярпелі ад камуністычнага тэрору?



*Беразавецкі ўніяцкі кляштар базылянаў (Глыбоцкі раён), пабудаваны ў сярэдзіне XVIII стагоддзя ў стылі віленскага барока. Захаваўся да нашага часу, акрамя царквы, якую знішчылі блізу 1960 года. У 1939 годзе, пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, у гэтым кляштары зрабілі турму НКВД.*

*Такія ж турмы былі адчынены ў Вільні, Берасці, Слоніме, Ваўкавыску, Ашмянах, Гайнаўцы, Сямятычах, Валожыне, Пінску, Вілейцы, Лідзе ды іншых месцах. У 1941 годзе, як пачалася вайна, амаль усіх вязняў з гэтых турмаў пазабівалі: адных – на месцы, другіх – па дарозе на ўсход. Канваіры кіраваліся загадам, які падпісалі П.Панамарэнка і Л. Цанава: "в случае невозможности обеспечить охрану контингента – расстреливать на месте".*

У бальшавіцкай ідэалогіі рэпрэсіі супраць "класавых ворагаў" займалі адно з галоўных месцаў. Гвалт для дыктатуры пралетарыяту быў проста неабходны. На думку Леніна, толькі з дапамогай «узброеных рабочых» магчыма ажыццяўляць сацыяльнае развіццё, дзеля чаго можна праліць і «мора крыві».

Рэпрэсіі пачаліся амаль з першых месяцаў існавання савецкай дзяржавы. У 1917–1921 гадах яны былі накіраваны галоўным чынам супраць «класавых ворагаў», якія вызначаліся паводле сацыяльнага стану ці партыйнай прыналежнасці. У Беларусі, дзе з прычыны нямецкай і польскай акупацыі савецкая ўлада ўсталявалася значна пазней, чым у Расіі, галоўны ўдар быў накіраваны супраць дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, праваслаўных і каталіцкіх святароў, сябраў партыі беларускіх эсэраў.

Пастановай ВЦИК (Усесаюзны цэнтральны выканаўчы камітэт) ад 11 красавіка 1919 года ўва ўсіх губернскіх гарадах ствараліся «канцэнтрацыйныя лагеры» на 300 месцаў. У сталіцы Беларусі такі лагер быў арганізаваны ў жніўні 1920 года.

Але сапраўды масавымі рэпрэсіі сталіся ў 1930-х гадах. У 1930–1934 гадах у асноўным вынішчалася заможнае сялянства або тыя, хто аказваў супраціў утварэнню калгасаў. «Кулацкімі ідэолагамі» была названа значная частка беларускай навуковай і творчай інтэлігенцыі. Сотні тысяч сялян (паводле розных крыніц, ад 4 да 15 працэнтаў усяго беларускага сялянства) былі высланы ў папраўча-працоўныя лагеры, іх сем'і выселены за межы БССР.

Каб мець «падставу» для прыцягнення да крымінальнай адказнасці творчай і навуковай інтэлігенцыі Беларусі, органамі ГПУ НКВД у 1930 годзе былі сфабрыкаваны справы контррэвалюцыйных арганізацый – «Саюза вызвалення Беларусі», Беларускага філіяла «Працоўнай сялянскай партыі», у 1933–1934 гадах – «Беларускай народнай грамады», «Беларускага нацыянальнага цэнтра» ды іншых. Было асуджана на «перавыхаванне» ў папраўча-працоўных лагерах і выслана ў Сібір і Казахстан больш за тысячу чалавек: навукоўцы, пісьменнікі, настаўнікі, журналісты, выкладчыкі ВНУ.

У 1933–1934 гадах былі рэпрэсаваны практычна ўсе святары як каталіцкай, так і праваслаўнай канфесіі, а таксама царкоўныя актывісты, абвінавачаныя ў антысавецкай дзейнасці.

Шмат было асуджана і расстраляна гаспадарнікаў – кіраўнікоў і простых работнікаў розных галін гаспадаркі. Калі інтэлігенцыю, святароў, сялян абвінавачвалі ў асноўным па палітычных матывах, то гаспадарнікі «выкрываліся як шкоднікі». Па справах шкодніцтва ў сістэме Дзяржплана, жывёлагадоўлі, Трактарацэнтра, запалкавай прамысловасці ды іншых былі асуджаны тысячы людзей.

У 1935–1936 гадах была ажыццёўлена «ачыстка» мяжы БССР ад «патэнцыяльных» ворагаў. У «аддаленыя мясцовасці СССР» было выслана больш за 20 тысяч чалавек.

Найбольшы размах рэпрэсіі набылі ў 1937–1938 гадах. Беларусь была «ачышчана» ад «контррэвалюцыйных элементаў і шпіёнаў». Толькі пры «выкрыцці» гэтак званага «Аб'яднанага антысавецкага падполля» засудзілі больш за 2,5 тысячы чалавек, значная частка з іх расстраляна.

Тады ж правялі масавую акцыю па выкрыцці польскіх, нямецкіх і латышскіх «шпіёнаў». Было арыштавана блізу 23,5 тысячы чалавек, больш як 21 тысяча з іх расстраляна.

Рэпрэсіі 1938 года закранулі ўсе пласты грамадства, у тым ліку і арганізатараў гэтых рэпрэсій. Былі арыштаваны 99 сакратароў райкамаў са 101, больш за 50 старшыняў райвыканкамаў, сакратары ЦК КП(б)Б.

Усе гэтыя працэсы паўтараліся пасля далучэння ў 1939 годзе Заходняй Беларусі. Прыпыненыя вайною рэпрэсіі набылі там асаблівы размах у другой палове 1940-х гадоў у сувязі з правядзеннем татальнай калектывізацыі і працягваліся аж да 1953 года.

У выніку «праведзенай работы» ў Беларусі было ліквідавана найбольш дзейнае, працавітае і прадпрымальнае сялянства, практычна знішчана нацыянальная інтэлігенцыя, былі зачынены або зруйнаваны цэрквы і касцёлы.

**Таццяна ПРОЦЬКА.**

**Тэксты да ілюстрацый падрыхтаваў Зміцер САНЬКО.**



Народная Воля http://www.nv-online.info 8 ЛІПЕНЯ 2016 г.

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 11 ИЮЛЯ

#### Беларусь 1
06.00, 07.20, 08.15 «Доброе утро, Беларусь!».
07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40 «Новости».
07.05, 08.05 «Новости экономики».
07.10, 08.10, 19.40, 23.25 «Зона Х».
09.10 «Главный эфир».
10.20 «Гречанка». Сериал.
11.00, 13.00, 16.00 «90 секунд».
11.10, 13.10 «Русалка». Сериал.
15.15, 18.40 «Новости региона».
15.25, 16.35 «Сваты-4». Сериал.
17.40 «Последняя встреча». Сериал.
19.20 «Арена».
20.00 «Форум».
21.00 «Панорама».
21.45 «След». Сериал.
00.00 «День спорта».
00.10 «Девичья охота». Сериал.

#### Беларусь 2
07.00 «Телеутро».
09.00, 10.15, 21.05 «Тэлебарометр».
09.05 «Удиви меня».
10.45 «Азбука вкуса».
11.20 «Научное шоу профессора Открывашкина».
11.45 «Классная школа». Сериал.
13.30 «Копейка в копейку».
14.00 «Орел и решка. Шоппинг».
15.00 «Кости». Сериал.
17.55 «Моя прекрасная няня». Сериал.
19.15 «Суперлото».
20.05 «Человек-невидимка».
21.10 «Экстрасенсы-детективы». Док. цикл.
22.10 «КЕНО».
22.15 «Репортер».
23.10 «Бивер Фолс». Сериал.

#### Беларусь 3
08.00, 12.45, 18.25, 21.00 "Калейдаскоп".
08.15, 11.15, 18.40, 21.15 "Размаўляем па-беларуску".
08.20 "Казачая быль". М/ф.
09.40 Мультфільм.
09.55 "Сто песень для Беларусі".
10.45 "Наперад у мінулае".
11.45, 19.40 "Архіў смерці". Серыял.
13.05 Shakira: En Vivo Desde Paris. Канцэрт.
14.45, 21.45 "Час кіно".
14.50 "Футбол старых часоў". М/ф.
16.10 "Вялікая Айчынная. Недагаворанае".
16.50 "Ляцяць жураўлі". М/ф.
18.45 "Загадкі рускай гісторыі".
20.40 "Калыханка".
21.55 "Апошні хлеб". М/ф.
23.20 "Геапалітыка: свет за тыдзень".

#### Беларусь 5
07.40, 19.25, 22.00 «PRO-спорт».
07.50 Теннис. Уимблдон. Женщины. Финал.
09.55 Футбол. Чемпионат Европы. Финал.
12.20 Теннис. Уимблдон. Мужчины. Финал.
14.25 Автоспорт. Дрифтинг. Чемпионат Беларуси.
15.30, 20.00 Теннис. Турнир WTA. Бухарест.
19.35 Футбол. Чемпионат Европы. Обзор.
22.30 «Время футбола».
23.20 «Один день на пути к Олимпу».

#### ОНТ
06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30 «Наши новости».
06.05 «Наше утро».
09.05 «Контуры».
10.00 «Жить здорово!».
11.05, 13.05, 16.15, 18.15, 21.00 «Новости спорта».
11.10 «Модный приговор».
12.20 «Это Я».
13.10 «Мужское/Женское».
14.10 «Наедине со всеми».
15.10, 16.20 «Время покажет».
17.00 «Давай поженимся!».
18.20 «Обратный отсчет».
18.55 «Жди меня».
20.00 «Время».
21.05 «Дело принципа».
22.15 «Беларусь без границ с группой «Без Билета».
23.00 «Мой парень – псих». Х/ф.
01.00 «Ночные новости».

#### РТР-Беларусь
07.00 «Утро России».
10.55 «Погода на неделю».
11.00, 14.00, 17.00, 20.00 «Вести».
11.35 «Комната смеха».
12.00 «Живет такой парень». Х/ф.
13.50, 16.50, 19.50, 23.00 «Новости – Беларусь».
14.30 «О самом главном».
15.30 «Прямой эфир».
17.30 «Тайны следствия». Сериал.
19.10, 20.50 «Красивая жизнь». Сериал.
21.55, 23.10 «Сестра моя, Любовь». Сериал.

#### НТВ-Беларусь
05.55 «Астропрогноз».
06.00 «Новое утро».
08.10 «Возвращение Мухтара». Сериал.
10.00, 13.00, 16.00, 19.00 «Сегодня».
10.25 «Москва. Три вокзала». Сериал.
12.00 «Суд присяжных».
13.20, 22.10 «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
13.50 «Едим дома».
14.20 «Тихая охота». Сериал.
15.10, 16.25 «Ментовские войны». Сериал.
19.40 «Дикий». Сериал.
22.35 «Итоги дня».
23.05 «Морские дьяволы. Смерч. Судьбы». Сериал.

#### СТВ
06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30 «24 часа».
06.10, 17.25 «Минщина».
06.20, 07.45 «Утро. Студия хорошего настроения».
07.40, 20.10, 22.55 «СТВ-спорт».
08.30 «Неделя».
09.25 «Большой завтрак».
10.05 «Дальние родственники».
10.40 «Семейные драмы».
11.40 «Не ври мне!». Сериал.
12.35, 17.35 «Званый ужин».
13.50 «Наше дело».
14.05 Концерт Михаила Задорнова.
15.35 «Ремонт по-честному».
16.50 «Следаки». Сериал.
18.35 «Самые шокирующие гипотезы».
20.00 «Столичные подробности».
20.15 «Военная тайна».
23.00 «Тайны Чапман».
23.55 «Меч». Сериал.

#### Мир
06.00 «180 минут».
09.00 «Беларусь сегодня».
09.30 «Начать сначала. Марта». Сериал.
13.00, 16.00, 19.00 «Новости».
13.15 «Любимый Раджа». Х/ф.
15.30 «Держись, шоубиз!».
16.20, 03.20 «Земля. Территория загадок».
16.50, 03.45 «Секретные материалы».
17.20 «Невидимки». Сериал.
19.20 «Метод Фрейда». Сериал.
22.00 «Каменная башка». Х/ф.
23.50 «Слово за слово».
00.40 «Детектив Ди и тайна призрачного пламени». Х/ф.
02.50 «Другой мир».
04.15 «Веселые ребята». Х/ф.

#### Россия Культура
07.00 «Евроньюс».
10.00, 15.00, 19.30, 23.30 «Новости культуры».
10.15, 01.40 «Наблюдатель».
11.15 «Им покоряется небо». Х/ф.
13.00 «Итальянское счастье».
13.25, 23.50 «Следствие ведут знатоки: полуденный вор». Х/ф.
15.10 «Театр». Х/ф.
17.30, 23.10, 01.20 «Мировые сокровища».
17.45 В.Федосеев и БСО им.П.И.Чайковского.
18.35 «Тринадцать плюс…».
19.15 «Спокойной ночи, малыши!».
19.45 «Культурный отдых».
20.15 «Сага о Форсайтах». Сериал.
21.05 «Дело России».
21.35 «Острова».
22.15 «Аркадий Райкин».
23.45 «Худсовет».
02.40 П.Чайковский. «Размышление», «Pezzo Capriccioso».

#### Белсат
07.00, 11.40 "ПраСвет".
07.40, 19.05 "Побач з намі".
08.00 "Лёсавырашальная сустрэча". Рэпартаж.
08.15 "Загадкі беларускай гісторыі": "Загадкі Лаўрышаўскага манастыра".
08.30 "Ранча". Серыял.
09.20 "Форум".
10.05, 17.45 "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча".
10.30 "Белая візітоўка". Серыял.
11.25, 18.55 "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
12.25 "Людскія справы": "Наша міліцыя. Закон ці кулакі?".
12.55 "Бывайце, таварышы!". Дак. серыял.
13.55 "Невядомая Беларусь": "Слуцкі збройны чын". Д/ф.
14.30 "Эверэст". М/ф.
16.00 "Mad Men. Утрапёныя-3". Серыял.
16.50 "Калькута ад золку да змяркання". Д/ф.
18.15 "Невядомая Беларусь": "Гульня ў вайнушку". Д/ф.
19.25 "Размовы эксперта".
19.40 "Сведкі: Друя".
20.00, 00.50-02.20 "Студыя "Белсат".
21.00 "Аб'ектыў".
21.25 "54%".
21.45 "10%, якія робяць героем". Д/ф.
23.20 "Жыццё тае іншай". М/ф.

## ВТОРНИК, 12 ИЮЛЯ

#### Беларусь 1
06.00, 07.20, 08.15 «Доброе утро, Беларусь!».
07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.30 «Новости».
07.05, 08.05 «Новости экономики».
07.10, 08.10, 19.40, 23.55 «Зона Х».
08.50 Слово Митрополита Павла на день Первоверховных апостолов Петра и Павла.
09.10, 22.15 «След». Сериал.
10.00, 13.00, 16.00 «90 секунд».
11.00, 20.00 «Гречанка». Сериал.
12.10, 16.35 «Семейные мелодрамы».
13.20 «Лист ожидания». Сериал.
14.25 «Детский доктор».
15.15, 18.40 «Новости региона».
15.25 «Простая жизнь». Сериал.
17.40 «Последняя встреча». Сериал.
19.20, 00.15 «Сфера интересов».
21.00 «Панорама».
21.45 «Крупным планом».
00.50 «День спорта».
01.00 «Девичья охота». Сериал.

#### Беларусь 2
07.00 «Телеутро».
09.00, 21.05 «Тэлебарометр».
09.25 «Экстрасенсы-детективы». Док.цикл.
10.35 «Обмани меня-2». Сериал.
11.30, 17.40 «Моя прекрасная няня». Сериал.
12.40 «Не отпускай меня». Х/ф.
14.30 «Орел и решка. Шоппинг».
15.30 «Пин-код».
16.15 «Закрытая школа». Сериал.
17.10 «Уличная магия».
18.50 «Не родись красивой». Сериал.
19.50 «Кухня». Сериал.
21.10 «Битва экстрасенсов. Война титанов».
22.00 «Спортлото 6 из 49», «КЕНО».
23.15 «Чужестранка». Сериал.

#### Беларусь 3
08.00, 13.30, 18.40, 21.00 "Калейдаскоп".
08.15, 13.45 "Размовы пра духоўнае".
08.25 "Размаўляем па-беларуску".
08.35, 17.05 "Нестар Бурма". Серыял.
10.05, 19.40 "Архіў смерці". Серыял.
11.05 "Святло далёкай зоркі".
11.35 "Шчаслівага Раства!". М/ф.
13.55 "Час кіно".
14.05 "Апошні хлеб". М/ф.
15.30 "Вецер забыцця". М/ф.
18.55, 21.15 "Паляўнічыя на нацыстаў".
20.40 "Калыханка".
21.55 "Князь Юрый Даўгарукі". М/ф.

#### Беларусь 5
07.40, 19.35, 22.50 «PRO-спорт».
08.05 «Время футбола».
08.50 Художественная гимнастика. Кубок мира.
14.00, 23.00 Теннис. Турнир WTA. Бухарест.
19.45 «Спорт-кадр».
20.15 «Миссия «Рио».
20.50 Футбол. Лига чемпионов УЕФА. БАТЭ (Беларусь) – СИК (Финляндия).

#### ОНТ
06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30 «Наши новости».
06.05 «Наше утро».
09.05 «Жить здорово!».
10.25 «Контрольная закупка».
11.05, 13.05, 16.15, 18.15, 21.00 «Новости спорта».
11.10 «Модный приговор».
12.20 «Это Я!».
13.10 «Мужское/Женское».
15.00 «Наедине со всеми».
16.20 «Обратный отсчет».
17.00, 22.50 «Давай поженимся!».
18.20 «Папины дочки». Сериал.
18.50 «Пусть говорят».
20.00 «Время».
21.05 «Практика». Сериал.
23.50 «Черный монах». Х/ф.
01.25 «Ночные новости».

#### РТР-Беларусь
07.00 «Утро России».
11.00, 14.00, 17.00, 20.00 «Вести».
11.30 «Дуэль разведок. Россия–Германия».
12.20 «Обреченные. Наша Гражданская война. Марков–Раскольников».
13.50, 16.50, 19.50, 23.00 «Новости – Беларусь».
14.30 «О самом главном».
15.30 «Прямой эфир».
17.30 «Тайны следствия». Сериал.
19.10, 20.50 «Красивая жизнь». Сериал.
21.55, 23.10 «Сестра моя, Любовь». Сериал.

#### НТВ-Беларусь
05.55 «Астропрогноз».
06.00 «Новое утро».
08.10 «Возвращение Мухтара». Сериал.
10.00, 13.00, 16.00, 19.00 «Сегодня».
10.25 «Москва. Три вокзала». Сериал.
12.00 «Суд присяжных».
13.20, 22.10 «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
13.50 «Врачебные тайны плюс».
14.15 «Тихая охота». Сериал.
15.05, 16.25 «Ментовские войны». Сериал.
19.40 «Дикий». Сериал.
22.35 «Итоги дня».
23.05 «Морские дьяволы. Смерч. Судьбы». Сериал.

#### СТВ
06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30 «24 часа».
06.10, 17.25 «Минщина».
06.20, 07.45 «Утро. Студия хорошего настроения».
07.40, 20.10, 22.55 «СТВ-спорт».
08.30, 23.40 «Тайны Чапман».
09.30, 18.35 «Самые шокирующие гипотезы».
10.40 «Семейные драмы».
11.40 «Не ври мне!». Сериал.
12.35, 17.35 «Званый ужин».
13.50 «Наше дело».
14.05 «Часы». Х/ф.
16.05 «Знай наших!».
16.50 «Центральный регион».
20.00 «Столичные подробности».
20.15 «Территория заблуждений».
21.55 «Смотреть всем!».
23.00 «Простые вопросы».
23.20 «Автопанорама».
00.30 «Меч». Сериал.

#### Мир
06.00 «180 минут».
09.00 «Реальное усыновление».
09.30 «Морской патруль». Сериал.
12.30 «Бремя обеда».
13.00, 16.00, 19.00 «Новости».
13.15, 19.20 «Метод Фрейда». Сериал.
16.20, 03.10 «Земля. Территория загадок».
16.50, 03.40 «Секретные материалы».
17.20 «Невидимки». Сериал.
22.00 «Стерва для чемпиона». Х/ф.
23.50 «Слово за слово».
00.45 «Свадебный переполох». Х/ф.
02.45 «Другой мир».
04.05 «В поисках радости». Х/ф.

#### Россия Культура
06.30 «Евроньюс».
10.00, 15.00, 19.30, 23.30 «Новости культуры».
10.15, 01.55 «Наблюдатель».
11.15, 20.15 «Сага о Форсайтах». Сериал.
12.10 «Письма из провинции».
12.40 «Маленькие капитаны».
13.10, 23.50 «Следствие ведут знатоки: полуденный вор». Х/ф.
14.30 «Махмуд Эсамбаев. Чародей танца».
15.10, 21.05 «Дело России».
15.40 «Острова».
16.20 «Аркадий Райкин».
17.20 «Мировые сокровища».
17.35 В.Федосеев и БСО им.П.И.Чайковского.
18.35 «Хор – единство непохожих».
19.15 «Спокойной ночи, малыши!».
19.45 «Культурный отдых».
21.35 «Абсолютный слух».
22.15 «Чтобы был театр».
23.45 «Худсовет».
01.05 «Гаагские ударники». Концерт.

#### Белсат
07.00, 12.30, 20.00, 01.10-02.35 "Студыя «Белсат».
08.25 "Размовы эксперта".
08.45 "Ранча". Серыял.
09.35, 16.00 "Mad Men. Утрапёныя-3". Серыял.
10.25, 17.55 "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча".
10.50 "10%, якія робяць героем". Д/ф.
12.20, 18.55 "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
14.00 "Невядомая Беларусь": "Гульня ў вайнушку". Д/ф.
14.45 "54%".
15.05 "Калькута ад золку да змяркання". Д/ф.
16.50 "Падарожжа на Усход – з Берліна ва Уладзівасток". Дак.серыял.
17.30 "Забароненая песня Курдыстана". Рэпартаж.
18.20 "Невядомая Беларусь": "Слуцкі збройны чын". Д/ф.
19.05 "Аўтастопам па Беларусі".
19.20 "Афрыканская чума". Рэпартаж.
19.35 "Мова нанова: рыцары".
21.00 "Аб'ектыў".
21.25 "Маю права".
21.50 "Забойства ў Сараеве". Д/ф.
23.10 "Сенсацыі XX стагоддзя". Серыял.
23.40 "ПраСвет".
00.20 "Жыццё ля поплаву". Серыял.

## СРЕДА, 13 ИЮЛЯ

#### Беларусь 1
06.00, 07.20, 08.15 «Доброе утро, Беларусь!».
07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20 «Новости».
07.05, 08.05 «Новости экономики».
07.10, 08.10, 19.40, 23.40 «Зона Х».
09.10, 22.00 «След». Сериал.
10.00, 13.00, 16.00 «90 секунд».
11.00, 20.00 «Гречанка». Сериал.
12.10, 16.35 «Семейные мелодрамы».
13.20 «Лист ожидания». Сериал.
14.20 «Детский доктор».
15.15, 18.40 «Новости региона».
15.25 «Простая жизнь». Сериал.
17.40 «Последняя встреча». Сериал.
19.20, 00.00 «Сфера интересов».
21.00 «Панорама».
21.45 «Актуальное интервью».
00.35 «День спорта».
00.50 «Девичья охота». Сериал.

#### Беларусь 2
07.00 «Телеутро».
09.00, 21.05 «Тэлебарометр».
09.10, 21.10 «Битва экстрасенсов. Война титанов».
11.05, 17.40 «Моя прекрасная няня». Сериал.
12.20, 18.50 «Не родись красивой». Сериал.
13.15, 19.50 «Кухня». Сериал.
14.25 «Орел и решка. Шоппинг».
15.30 «Пин-код».
16.10 «Закрытая школа». Сериал.
17.10 «Уличная магия».
20.55 «Хочу в телевизор!».
22.00 «Спортлото 5 из 36», «КЕНО».
23.25 «Чужестранка». Сериал.

#### Беларусь 3
08.00, 12.40, 18.40, 21.05 "Калейдаскоп".
08.15 "Размаўляем па-беларуску".
08.20, 17.10 "Нестар Бурма". Серыял.
09.50, 19.40 "Архіў смерці". Серыял.
10.55 "Святло далёкай зоркі".
11.20 "Прыгоды ў горадзе, якога няма". М/ф.
13.00 "Ён недзе тут… Успаміны пра Юрыя Марухіна".
13.25 "Цішыня". М/ф.
14.55 "Мартконтакт-2015". "Прадчуванне кахання".
15.25 "Князь Юрый Даўгарукі". М/ф.
19.00, 21.20 "Паляўнічыя на нацыстаў".
20.40 "Калыханка".
22.00 "Мёртвы сезон". М/ф.

#### Беларусь 5
07.20, 19.25, 21.55 «PRO-спорт».
07.30 «Спорт-кадр».
08.00, 11.55 Волейбол. Квалификация к молодежному чемпионату Европы. Мужчины.
10.00 Футбол. Лига чемпионов УЕФА. БАТЭ (Беларусь) – СИК (Финляндия).
14.00, 19.35, 22.05 Теннис. Турнир WTA. Бухарест.
21.35 «Козел про футбол».

#### ОНТ
06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30 «Наши новости».
06.05 «Наше утро».
09.05 «Жить здорово!».
10.25 «Контрольная закупка».
11.05, 13.05, 16.15, 18.15, 21.00 «Новости спорта».
11.10 «Модный приговор».
12.20 «Это Я!».
13.10 «Мужское/Женское».
15.00 «Наедине со всеми».
16.20 «Обратный отсчет».
17.00, 22.50 «Давай поженимся!».
18.20 «Папины дочки». Сериал.
18.50 «Пусть говорят».
20.00 «Время».
21.05 «Практика». Сериал.
23.50 «Проделки в старинном духе». Х/ф.
01.10 «Ночные новости».

#### РТР-Беларусь
07.00 «Утро России».
11.00, 14.00, 17.00, 20.00 «Вести».
11.35 «Комната смеха».
12.10 «Белая гвардия». Сериал.
13.50, 16.50, 19.50, 23.00 «Новости – Беларусь».
14.30 «О самом главном».
15.30 «Прямой эфир».
17.30 «Тайны следствия». Сериал.
19.10, 20.50 «Красивая жизнь». Сериал.
21.55, 23.10 «Сестра моя, Любовь». Сериал.

#### НТВ-Беларусь
05.55 «Астропрогноз».
06.00 «Новое утро».
08.10 «Возвращение Мухтара». Сериал.
10.00, 13.00, 16.00, 19.00 «Сегодня».
10.25 «Москва. Три вокзала». Сериал.
12.00 «Суд присяжных».
13.20, 22.10 «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
13.50 «Врачебные тайны плюс».
14.15 «Тихая охота». Сериал.
15.05, 16.25 «Ментовские войны». Сериал.
19.40 «Дикий». Сериал.
22.35 «Итоги дня».
23.05 «Морские дьяволы. Смерч. Судьбы». Сериал.

#### СТВ
06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30 «24 часа».
06.10, 17.25 «Минщина».
06.20, 07.45 «Утро. Студия хорошего настроения».
07.40, 20.10, 22.55 «СТВ-спорт».
08.30, 23.00 «Тайны Чапман».
09.30, 18.35 «Самые шокирующие гипотезы».
10.40 «Семейные драмы».
11.40 «Не ври мне!». Сериал.
12.35, 17.35 «Званый ужин».
13.50 «Территория заблуждений».
15.30 «Водить по-русски».
16.10 «Автопанорама».
16.50 «Следаки». Сериал.
20.00 «Столичные подробности».
20.15 «Секретные территории».
22.00 «Смотреть всем!».
23.50 «Меч». Сериал.

#### Мир
06.00 «180 минут».
09.00 «Медицинская правда».
09.30 «Морской патруль». Сериал.
12.30 «Бремя обеда».
13.00, 16.00, 19.00 «Новости».
13.15, 19.20 «Метод Фрейда». Сериал.
16.20, 03.05 «Земля. Территория загадок».
16.50, 03.30 «Секретные материалы».
17.20 «Невидимки». Сериал.
22.10 «Дочь Якудзы». Х/ф.
23.50 «Слово за слово».
00.40 «Стерва для чемпиона». Х/ф.
02.35 «Другой мир».
04.00 «Учитель». Х/ф.

#### Россия Культура
06.30 «Евроньюс».
10.00, 15.00, 19.30, 23.30 «Новости культуры».
10.15, 01.55 «Наблюдатель».
11.15, 20.15 «Сага о Форсайтах». Сериал.
12.10 «Письма из провинции».
12.40 «Маленькие капитаны».
13.10, 23.50 «Следствие ведут знатоки: бумеранг». Х/ф.
14.45, 18.20 «Мировые сокровища».
15.10, 21.05 «Дело России».
15.40 «95 лет Российскому академическому молодежному театру. «Там, где детство не кончается…».
16.20 «Олег Ефремов. «Чтобы был театр».
17.35 В.Федосеев и БСО им.П.И.Чайковского.
18.35 «Гиперболоид инженера Шухова».
19.15 «Спокойной ночи, малыши!».
19.45 «Культурный отдых».
21.35 «Абсолютный слух».
22.15 «Михаил Ульянов. Хроника одной роли».
23.20 «Рафаэль».
23.45 «Худсовет».
01.25 Симфонический оркестр RAI. Произведения С.Рахманинова.

#### Белсат
07.00, 12.50, 20.00, 00.05-01.35 "Студыя «Белсат».
08.25 "Маю права".
08.50, 16.00 "Ранча". Серыял.
09.40 "Mad Men. Утрапёныя-3". Серыял.
10.30 "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча".
10.55, 16.50 "Забойства ў Сараеве". Дак.фільм.
12.15 "Мова нанова: рыцары".
12.40, 15.20, 18.45 "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
14.15 "Аўтастопам па Беларусі".
14.30 "Жыццё ля поплаву". Серыял.
15.30 "Невядомая Беларусь": "Слуцкі збройны чын". Дак.фільм.
18.10 "Невядомая Беларусь": "Няскораная". Дак.фільм.
19.05 "Чорным па белым".
19.35 "Мова нанова: гатэль".
21.00 "Аб'ектыў".
21.25 "Людскія справы: справа Лукашука. Як прымусіць суд працаваць?".
22.00 "ГУЛАГ схаваны ў памяці". Дак. фільм.
22.55 "Журэк". М/ф.

## ЧЕТВЕРГ, 14 ИЮЛЯ

#### Беларусь 1
06.00, 07.20, 08.15 «Доброе утро, Беларусь!».
07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00 «Новости».
07.05, 08.05 «Новости экономики».
07.10, 08.10, 19.40, 00.10 «Зона Х».
09.10 «След». Сериал.
10.00, 13.00, 16.00 «90 секунд».
11.00, 20.00 «Гречанка». Сериал.
12.10, 16.30 «Семейные мелодрамы».
13.20 «Лист ожидания». Сериал.
14.20 «Детский доктор».
15.15, 18.40 «Новости региона».
15.25 «Простая жизнь». Сериал.
17.40 «Последняя встреча». Сериал.
19.20, 00.30 «Сфера интересов».
21.00 «Панорама».
21.45 «Специальный репортаж».
22.00 «Славянский базар в Витебске». Торжественное открытие XXV Международного фестиваля искусств.
00.50 «День спорта».
01.00 «Девичья охота». Сериал.

#### Беларусь 2
07.00 «Телеутро».
09.00, 21.05 «Тэлебарометр».
09.10, 21.10 «Битва экстрасенсов. Война титанов».
11.10, 17.45 «Моя прекрасная няня». Сериал.
12.25, 18.55 «Не родись красивой». Сериал.
13.25, 19.55 «Кухня». Сериал.
14.30 «Орел и решка. Шоппинг».
15.30 «Пин-код».
16.10 «Закрытая школа». Сериал.
17.10 «Уличная магия».
22.00 «Спортлото 6 из 49», «КЕНО».
23.45 «Чужестранка». Сериал.

#### Беларусь 3
07.40, 12.05, 18.40, 21.00 "Калейдаскоп".
07.55, 17.15 "Нестар Бурма". Серыял.
09.20, 19.40 "Архіў смерці". Серыял.
10.20 "Святло далёкай зоркі".
10.45 "Рускія браты". М/ф.
12.20 "Мёртвы сезон". М/ф.
14.30 "Сіла веры".
15.00 "Чорны бусел". М./ф.
16.35 "Кіно і час".
19.00, 21.15 "Паляўнічыя на нацыстаў".
20.40 "Калыханка".
21.55 "Коні ў акіяне". М/ф.

#### Беларусь 5
07.25, 19.25, 21.35 «PRO-спорт».
07.35 «Козел про футбол».
07.55 Легкая атлетика. Чемпионат Европы.
14.00, 19.35 Теннис. Турнир WTA. Бухарест.
21.45 «Один день на пути к Олимпу».
22.15 Смешанные единоборства. Открытый чемпионат Беларуси.

#### ОНТ
06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30 «Наши новости».
06.05 «Наше утро».
09.05 «Жить здорово!».
10.25 «Контрольная закупка».
11.05, 13.05, 16.15, 18.15, 21.00 «Новости спорта».
11.10 «Модный приговор».
12.20 «Это Я!».
13.10 «Мужское/Женское».
15.00 «Наедине со всеми».
16.20 «Обратный отсчет».
17.00, 22.50 «Давай поженимся!».
18.20 «Папины дочки». Сериал.
18.50 «Пусть говорят».
20.00 «Время».
21.05 «Практика». Сериал.
23.50 «Семейное счастье». Х/ф.
01.25 «Ночные новости».

#### РТР-Беларусь
07.00 «Утро России».
11.00, 14.00, 17.00, 20.00 «Вести».
11.35 «Комната смеха».
12.10 «Белая гвардия». Сериал.
13.50, 16.50, 19.50, 23.00 «Новости – Беларусь».
14.30 «О самом главном».
15.30 «Прямой эфир».
17.30 «Тайны следствия». Сериал.
19.10, 20.50 «Красивая жизнь». Сериал.
21.55, 23.10 «Сестра моя, Любовь». Сериал.

#### НТВ-Беларусь
05.55 «Астропрогноз».
06.00 «Новое утро».
08.10 «Возвращение Мухтара». Сериал.
10.00, 13.00, 16.00, 19.00 «Сегодня».
10.25 «Москва. Три вокзала». Сериал.
12.00 «Суд присяжных».
13.20, 22.10 «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
13.50 «Врачебные тайны плюс».
14.15 «Тихая охота». Сериал.
15.05, 16.25 «Ментовские войны». Сериал.
19.40 «Дикий». Сериал.
22.35 «Итоги дня».
23.05 «Морские дьяволы. Смерч. Судьбы». Сериал.

#### СТВ
06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30 «24 часа».
06.10, 17.25 «Минщина».
06.20, 07.45 «Утро. Студия хорошего настроения».
07.40, 20.10, 22.55 «СТВ-спорт».
08.30, 23.40 «Тайны Чапман».
09.30, 18.35 «Самые шокирующие гипотезы.
10.40 «Семейные драмы».
11.40 «Не ври мне!». Сериал.
12.35, 17.35 «Званый ужин».
13.50 «Секретные территории».
15.35 «Водить по-русски».
16.10 «Добро пожаловаться».
16.50 «Минск и минчане».
20.00 «Столичные подробности».
20.15 «Странное дело».
22.00 «Смотреть всем!».
23.00 «Простые вопросы».
23.20 «Автопанорама».
00.30 «Меч». Сериал.

#### Мир
06.00 «180 минут».
09.00, 05.25 «Сделано в СССР».
09.30, 00.40 «День свадьбы придется уточнить». Х/ф.
11.10 «Дочь Якудзы». Х/ф.
13.00, 16.00, 19.00 «Новости».
13.15, 19.20 «Метод Фрейда». Сериал.
16.20, 02.55 «Земля. Территория загадок».
16.50, 03.20 «Секретные материалы».
17.20 «Невидимки». Сериал.
22.00 «Сокровища О.К.». Х/ф.
23.50 «Слово за слово».
02.25 «Другой мир».
03.50 «Трактористы». Х/ф.

#### Россия Культура
06.30 «Евроньюс».
10.00, 15.00, 19.30, 23.30 «Новости культуры».
10.15, 01.55 «Наблюдатель».
11.15, 20.15 «Сага о Форсайтах». Сериал.
12.10 «Письма из провинции».
12.40 «Маленькие капитаны».
13.10, 23.50 «Следствие ведут знатоки: бумеранг». Х/ф.
14.40, 23.10 «Мировые сокровища».
15.10, 21.05 «Дело России».
15.40 «Хроники Изумрудного города. Александр Волков».
16.20 «Михаил Ульянов. Хроника одной роли».
17.35 В.Федосеев и БСО им.П.И.Чайковского.
18.35 «Неизвестный АэС».
19.15 «Спокойной ночи, малыши!».
19.45 «Культурный отдых».
21.35 «Абсолютный слух».
22.15 «Анастасия Цветаева. «Мне 90 лет, еще легка походка…».
23.45 «Худсовет».
01.25 «Холстомер. История лошади».

#### Белсат
07.00, 11.55, 20.00, 00.25-01.55 "Студыя «Белсат».
08.20 "Побач з намі".
08.35, 16.05 "Ранча". Серыял.
09.25 "Падарожжа на Усход – з Берліна ва Уладзівасток". Дак.серыял.
10.10, 17.55 "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча".
10.35, 17.00 "ГУЛАГ схаваны ў памяці". Дак.фільм.
11.30 "Мова нанова: гатэль".
11.45, 16.50, 18.55 "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
13.15 "Людскія справы: справа Лукашука. Як прымусіць суд працаваць?".
13.45 "Чорным па белым".
14.20, 18.20 "Невядомая Беларусь": "Няскораная". Д/ф.
14.50 "Журэк". М/ф.
19.05 "Альпіністка". Рэпартаж.
19.20 "Загадкі беларускай гісторыі: Заслаўе – прыгарад, старэйшы за сталіцу".
19.35 "Мова нанова: матацыклы".
21.00 "Аб'ектыў".
21.25 "Два на два".
22.00 "Апошнія сакрэты Трэцяга рэйха". Дак.серыял.
22.55 "Мент". Серыял.
23.40 "Таямніца крэпасці шыфраў". Серыял.

## ПЯТНИЦА, 15 ИЮЛЯ

#### Беларусь 1
06.00, 07.20, 08.15 «Доброе утро, Беларусь!».
07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00 «Новости».
07.05, 08.05 «Новости экономики».
07.10, 08.10, 19.20 «Зона Х».
09.10 «Дочь баяниста». Х/ф.
10.00, 13.00, 16.00 «90 секунд».
11.00, 20.00 «Гречанка». Сериал.
12.10, 16.30 «Семейные мелодрамы».
13.20 «Лист ожидания». Сериал.
14.20 «Детский доктор».
15.15, 18.40 «Новости региона».
15.25 «Простая жизнь». Сериал.
17.35 «Terra incognita. Беларусь неизвестная».
18.10 «Судьба гигантов».
21.00 «Панорама».
21.45 «Наши».
22.00 XXV Международный фестиваль искусств «Славянский базар в Витебске»: «Союзное государство приглашает…». Прямая трансляция.
00.00 «День спорта».
00.15 «Девичья охота». Сериал.

#### Беларусь 2
07.00 «Телеутро».
09.00, 21.05 «Тэлебарометр».
09.05 «Битва экстрасенсов. Война титанов».
11.25 «Моя прекрасная няня». Сериал.
12.35 «Не родись красивой». Сериал.
13.30 «Кухня». Сериал.
14.35 «Орел и решка. Шоппинг».
15.30 «Пин-код».
16.15 «Альфа и Омега: Клыкастая братва». Мультфильм.
17.50 «Я хочу это увидеть».
18.25 «Чужие». Х/ф.
20.55 «Хочу в телевизор!».
21.10 «Битва экстрасенсов. XII».
22.00 «Спортлото 5 из 36», «КЕНО».
23.30 XXV Международный конкурс исполнителей эстрадной песни «Витебск-2016». Полуфинал.

#### Беларусь 3
08.00, 12.40, 18.25, 21.00 "Калейдаскоп".
08.15, 17.00 "Нестар Бурма". Серыял.
09.40 "Архіў смерці". Серыял.
10.40 "Святло далёкай зоркі".
11.10 "Коні ў акіяне". М/ф.
12.55 "Сіла веры".
13.25 "Апошняя ноч Алаізы". Тэлеспектакль.
14.25 "Рускія браты". М/ф.
15.40 "Музычныя вечары з Прэзідэнцкім аркестрам Рэспублікі Беларусь".
16.30 "Камертон".
18.40, 21.14 "Паляўнічыя на нацыстаў".
19.25 "Падарожжа будзе прыемным". М/ф.
20.40 "Калыханка".
21.55 "Час кіно".
22.00 "Гэта пачалося ў Неапалі". М/ф.
23.40 "Мелодыі лета". Канцэрт.

#### Беларусь 5
07.45, 19.25, 22.10 «PRO-спорт».
07.55 Легкая атлетика. Чемпионат Европы. Вечерняя сессия.
10.00, 22.20 Теннис. Кубок Дэвиса. Беларусь–Латвия. Матчи одиночного разряда.
14.00, 19.35 Теннис. Турнир WTA. Бухарест. финала. Прямая трансляция.
21.35 «Пит-стоп».

#### ОНТ
06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30 «Наши новости».
06.05 «Наше утро».
09.05 «Жить здорово!».
10.25 «Контрольная закупка».
11.05, 13.05, 16.15, 18.15, 21.00 «Новости спорта».
11.10 «Модный приговор».
12.20 «Это Я!».
13.10 «Мужское/Женское».
15.00 «Наедине со всеми».
16.20 «Зимний вечер в Гаграх». Х/ф.
18.20 «Папины дочки». Сериал.
18.55 «Поле чудес».
20.00 «Время».
21.05 «Три аккорда».
23.00 «Катала». Х/ф.
00.30 «Легенды. Live».
01.10 «Ночные новости».

#### РТР-Беларусь
07.00 «Утро России».
11.00, 14.00, 17.00, 20.00 «Вести».
11.35 «Комната смеха».
12.10 «Белая гвардия». Сериал.
13.50, 16.50, 19.50, 23.00 «Новости – Беларусь».
14.30 «О самом главном».
15.30 «Прямой эфир».
17.30 «Тайны следствия». Сериал.
19.10, 20.50 «Красивая жизнь». Сериал.
21.55, 23.10 «Петросян-шоу».
23.55 Торжественная церемония открытия Международного фестиваля «Славянский базар в Витебске».

#### НТВ-Беларусь
05.55 «Астропрогноз».
06.00 «Новое утро».
08.10 «Возвращение Мухтара». Сериал.
10.00, 13.00, 16.00, 19.00 «Сегодня».
10.25 «Москва. Три вокзала». Сериал.
12.00 «Суд присяжных».
13.20 «Обзор. Чрезвычайное происшествие».
13.50 «Врачебные тайны плюс».
14.15 «Тихая охота». Сериал.
15.05, 16.25 «Ментовские войны». Сериал.
19.30 «Дикий». Сериал.
21.10 «Мент в законе». Сериал.
01.20 «Тайны следствия».

#### СТВ
06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30 «24 часа».
06.10, 17.25 «Минщина».
06.20, 07.45 «Утро. Студия хорошего настроения».
07.40, 20.10, 22.55 «СТВ-спорт».
08.30 «Тайны Чапман».
09.30, 18.35 «Самые шокирующие гипотезы».
10.40 «Семейные драмы».
11.40 «Не ври мне!». Сериал.
12.35, 17.35 «Званый ужин».
13.50 «Странное дело».
15.35 «Водить по-русски».
16.10 «Автопанорама».
16.50 «Следаки». Сериал.
20.00 «Столичные подробности».
20.15 «Дети шпионов-3: игра окончена». Х/ф.
21.50 «Смотреть всем!».
23.00 «Ужас Амитивилля». Х/ф.
00.35 «Звездный ринг».

#### Мир
06.00 «180 минут».
09.00 «Сделано в СССР».
09.30, 00.45 «Завещание профессора Доуэля». Х/ф.
11.10 «Сокровища О.К.». Х/ф.
13.00, 16.00, 19.00 «Новости».
13.15 «Метод Фрейда». Сериал.
16.20, 03.20 «Секретные материалы».
17.20 «Невидимки». Сериал.
19.20 «Откройте, это я!». Сериал.
22.30 «О чем базар?». Дневник Международного фестиваля «Славянский базар».
22.45 «Славянский базар в Витебске». XXV Международный фестиваль искусств. Торжественное открытие.
02.25 «Другой мир».
02.55 «Земля. Территория загадок».



03.50 «Вратарь». Х/ф.
05.05 Мультфильмы.

#### Россия Культура
06.30 «Евроньюс».
10.00, 15.00, 19.30, 23.30 «Новости культуры».
10.15 «Наблюдатель».
11.15 «Сага о Форсайтах». Сериал.
12.10 «Письма из провинции».
12.40 «Маленькие капитаны».
13.10, 23.50 «Следствие ведут знатоки: ушел и не вернулся». Х/ф.
15.10 «Дело России».
15.40 «Рем Хохлов. Последняя высота».
16.20 «Анастасия Цветаева. «Мне 90 лет, еще легка походка…».
17.20 «Холстомер. История лошади».
17.50 «К 85-летию со дня рождения Б.Тевлина». Концерт.
18.50 «Леонид Енгибаров. Сердце на ладони».
19.45 «Смехоностальгия».
20.15, 01.55 «Искатели».
21.00 «Увольнение на берег». Х/ф.
22.20 «Линия жизни».
23.15, 02.40 «Мировые сокровища».
23.45 «Худсовет».
01.35 «Носки большого города». Мультфильм для взрослых.

#### Белсат
07.00, 11.45, 20.00, 00.35-01.55 "Студыя "Белсат".
08.25 "Альпіністка". Рэпартаж.
08.45 "Загадкі беларускай гісторыі: Заслаўе – прыгарад, старэйшы за сталіцу".
09.00, 16.00 "Ранча". Серыял.
09.50, 17.40 "Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча".
10.15, 16.45 "Апошнія сакрэты Трэцяга рэйха". Дак.серыял.
11.10 "Мова нанова: матацыклы".
11.30, 11.35, 18.50 "Гісторыя пад знакам "Пагоні".
13.15 "Два на два".
13.50 "Невядомая Беларусь": "Няскораная". Дак.фільм.
14.20 "Таямніца крэпасці шыфраў". Серыял.
15.10 "Падарожжа на Усход – з Берліна ва Уладзівасток". Дак.серыял.
18.10 "Піяніна". Дак.фільм.
19.05 "Зоры не спяць".
19.35 "Мова нанова: спадчына".
21.00 "Аб'ектыў".
21.25 "Форум".
22.10 "Бывайце, таварышы!". Дак. серыял.
23.05 "Напаказ". М/ф.

